ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№52**
**(2558)**

25 снежня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.



Генадзь АЎЛАСЕНКА

## НАВАГОДНІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

* * *

**З кожным днём**
**таней календары,**
**першыя завеі**
**на двары,**
**стомленых сняжынак**
**карагод...**
**Хутка...**
**вельмі хутка**
**Новы год...**

* * *

**Стынуць дрэвы**
**ад злых маразоў...**
**Б'е гадзіннік**
**дванаццаць разоў...**
**Б'е гадзіннік...**
**Усё яшчэ б'е...**
**Год знікае...**
**Другі настае...**
**Год знікае,**
**Ідзе ў забыццё!**
**Быў ён розным...**
**(Такое жыццё).**
**Год знікае...**
**знікае ад нас!**
**Ён стары...**
**безнадзейна стары...**
**Б'е гадзіннік**
**дванаццаты раз...**
**Вось і ўсё...**
**З Новым годам,**
**сябры!**



ЛІСТЫ МАКСІМА ТАНКА
ДА МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

# «НІЗКІ ПАКЛОН ТВАІМ ПЕСНЯМ...»

Міласцю Божай спявак Міхась Забэйда-Суміцкі і паэт Максім Танк... Сёння, мабыць, кожнаму ведама, што гэтыя два выдатныя сыны Бацькаўшчыны-Беларусі жылі і тварылі, паддаючыся вымогам падкрэслена сумленнага, высакародна-ахвярнага слугавання абранай справе, адно кіруючыся зоркамі Дабра ды Праўды, Гармоніі ды Харства. Неадцуранствам ад свайго, радзіма-роднага, заўсёдный зараджанасцю высокімі чалавечымі прынцыпамі і ідэаламі яны, як і некаторыя іншыя дзеячы нацыянальнай літаратуры і мастацтва, у пэўным сэнсе з'яўляліся рэтра-арыгіналамі, унікатамі свайго вельмі няпростага часу. Артыстычна-вытанчаны пясняр-спявак і віртуозна-дакліві пясняр-паэт былі блізкія між сабой асновамі нутраной тапаранцыі, самой арганізацыяй мыслення, памкненнем да "волі чалавечае асабістасці" (Т. Грыб), нейкай характэрнай душэўнай узгадненасцю і самапачуццём, урэшце, падкрэслена пашанотным стаўленнем да памлівых дзей і зрухаў далёкай і блізкай нацыянальнай бывальшчыны.

Самотна-доўгім гадам і дзесяцігоддзям далечнай ростані не пад сілу было расчужыніць двух маэстра, суб'ект-суб'ектныя адносіны якіх адпачатку вызначаліся высокай маральнай экалогіяй і шчырасцю. Да самых апошніх часін яны адчувалі патрэбу ў душэўна-ча-

**(Працяг на 6-й стар.).**

*У РАБОЦЕ — ВЕНЕЦЫЯ,*
*У МАРАХ — РЫМ*

# РУБЕН АТАЯН, КАРТОГРАФ І МАСТАК, ЗАПРАШАЕ Ў ПАДАРОЖЖА

*Так, Рубен Атаян, картограф і мастак, запрашае ў падарожжа — крыху незвычайнае, але ўсё роўна захапляючае: ён прапануе "прайсціся" па картах. І не проста — тапаграфічных, палітычных, геаграфічных і г. д., а па картах-панарамах прыгожых гарадоў, цікавых гістарычных мясцін — напрыклад, пабываць у замках... Прычым абяцае: нават пры мінімальнай фантазіі вандроўніка эфект прысутнасці абавязкова з'явіцца, бо аўтар гарантуе дакладнасць і падрабязнасць кожнай створанай ім плошчы і вуліцы. Сёння на яго рахунку ўжо Вільнюс, Мінск, Каўнас, Гданьск, Кракаў, Санкт-Пецярбург, Масква, Мірскі, Нясвіжскі, Тракайскі замкі, замак Мальбарк у Польшчы... У рабоце — Венецыя, а ў марах — Іерусалім і Рым...*

**— Рубен Уладзіміравіч, давайце пачнём здалёк, зазірнем, як кажуць, у вытокі вашай мастакоўскай і прафесійнай дзейнасці.**

— Увогуле, там усё звычайна. Я картограф, скончыў Маскоўскі інстытут геадэзіі і картаграфіі. Таксама з маленства маляваў. У Мінску працаваў на картаграфічным прадпрыемстве рэдактарам. Аднак работа, што я выконваў, не задавальняла: непатрэбная, нецікавая, і плацілі за яе літаральна капейкі, а ў мяне сям'я, двое дзяцей. Раней абараніў дысертацыю на тэму, звязаную з турыстычнымі картамі, панарамамі гарадоў, праводзіў даследаванні разнастайных картаграфічных прыёмаў, іншых спосабаў, як лепей і больш дакладна паказаць горад на паперы. Хацелася выкарыстоўваць на практыцы тое, што ведаў і ўмеў. Вось і прапанаваў адміністрацыі зрабіць панарамную серыю "Гарады Беларусі — архітэктурныя помнікі". Першым пабачыў свет Нясвіж, наступным стаў Мірскі замак. Тут я ўжо выконваў функцыі і мастака, і рэдактара, і карэктара (тлумачальныя тэксты ішлі на пяці мовах). Потым давялося пайсці з фабрыкі, і зараз я "вольны мастак".

**— Але, каб жыць "вольным мастаком", неабходна мець заказы...**

— Сапраўды. Прычым шукаць

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**УСІХ НАШЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ**
**ПА-ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ**
**ШЧЫРА ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ, 1998 ГАДАМ!**

**Зычым вам моцнага здароўя. Хай кожны дзень вашага жыцця будзе памысным, радасным, а вашы сэрцы саграе любоў да таго адзінага куточка, які завецца радзімай.**

**Шчасця і дабрабыту вам і вашым сем'ям!**

**ТАВАРЫСТВА "РАДЗІМА".**
**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ".**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*БЕЛАРУСЬ — ЗША*

## РОЗНАГАЛОССІ БУДУЦЬ ЗГЛАДЖАНЫ



Абмеркаванне праблематыкі двухбаковых адносінаў і пошук узаемапрымальных рашэнняў спрэчных пытанняў сусветнай палітыкі — такой была мэта візіту ў нашу краіну пасла па асобых даручэннях спецыяльнага саветніка дзяржсакратара ЗША па новых незалежных дзяржавах Стывена Сестанавіча.

"Мы спадзяёмся, што ўсе перашкоды, якія стаяць на шляху нармалізацыі двухбаковых амерыкана-беларускіх адносін, будуць пераадолены ў ходзе рэгулярных кансультацый паміж урадамі і знешнепалітычнымі ведамствамі дзвюх краін", — заявіў журналістам на прэс-канферэнцыі спецыяльны саветнік дзяржаўнага сакратара ЗША па новых незалежных дзяржавах. Інфармуючы журналістаў аб асноўных тэмах перагавораў членаў амерыканскай дэлегацыі з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам і міністрам замежных спраў Іванам Антановічам, Стывен Сестанавіч адзначыў, што праведзеныя гутаркі з'яўляюцца састаўной часткай рэгулярнага палітычнага дыялога, які вядзецца паміж урадамі ЗША і Беларусі. Каменем спатыкнення на шляху нармалізацыі двухбаковых адносін, на яго думку, па-ранейшаму застаецца праблема захавання ў Беларусі правоў чалавека, якія ў Вашынгтоне і Мінску разумеюць і тлумачаць з розных, часта дыяметральна процілеглых, пунктаў гледжання. Вялікую заклапочанасць, паводле слоў Стывена Сестанавіча, у амерыканскай сталіцы выклікала паведамленне аб закрыцці газеты "Свабода". Гэта праблема, як і праблема свабоды прэсы ў цэлым, стала адной з асноўных і найбольш цяжкіх тэм праведзеных перагавораў. Стывен Сестанавіч выказаў спадзяванне, што рознагалоссі ў пытанні трактоўкі паняцця правоў чалавека, якія існуюць паміж Беларуссю і Захадам, будуць згладжаны пры непасрэдным садзейнічанні Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Наглядальная дэлегацыя АБСЕ ўжо амаль сфарміравана і, магчыма, у хуткім часе пачне сваю дзейнасць у нашай краіне.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сяргея ЛІНГА з афіцыйнай дэлегацыяй ЗША на чале з Паслом па асобых даручэннях, спецыяльным саветнікам дзяржсакратара ЗША па новых незалежных дзяржавах Стывенам СЕСТАНАВІЧАМ.

*З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ*

## АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «РАССВЕТ» БУДЗЕ КАЛГАСАМ ІМЯ К. АРЛОЎСКАГА

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 16 снежня кіраўнік беларускай дзяржавы А. Лукашэнка прыняў са справаздачай старшыню Магілёўскага аблвыканкома А. Кулічкова.

Асноўным пытаннем размовы стаў разгляд шляхоў рэфарміравання закрытага акцыянернага таварыства "Рассвет" Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці з улікам дзеючага заканадаўства. А. Кулічкоў азнаёміў Прэзідэнта з рашэннем акцыянераў ЗАТ "Рассвет", якое вызначыла далейшы юрыдычны статус гаспадаркі. Акцыянеры маюць намер пераўтварыць ЗАТ у калгас імя К. Арлоўскага. Канчатковае рашэнне гэтага пытання будзе прынята на агульным сходзе працоўнага калектыву.

Прэзідэнт краіны падтрымаў такое вырашэнне гэтай праблемы. Разам з тым А. Лукашэнка адзначыў, што гэта трэба зрабіць публічна з максімальным улікам думкі кожнага члена калектыву.

А. Кулічкоў далажыў кіраўніку дзяржавы аб стварэнні і выніках дзейнасці каардынацыйнага савета па барацьбе са злачыннасцю, у які ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх галін улады.

Старшыня Магілёўскага аблвыканкома падрабязна інфармаваў Прэзідэнта аб мерах, што прымаюцца ў вабласці па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## «ДЖОН ДЗІР» ВЫБІРАЕ МТЗ

Вядомая трактарабудаўнічая фірма "Джон Дзір" будзе вырабляць 250-сільныя трактары з Беларуссю. У якасці сваіх патэнцыяльных партнёраў немцы аднача-сова разглядалі некалькі канкуруючых заводаў, у тым ліку Мінскі трактарны і Харкаўскі трактарны. І канчаткова спынілі свой выбар на Мінскім.

Ужо абгавораны дэталі супрацоўніцтва. Створана рабочая група, і на працягу наступнага года павінен з'явіцца доследны ўзор.

Замежныя трактары аналагічнай магутнасці каштуюць 120—140 тысяч долараў. Зроблены ж у Мінску, па папярэдніх прыкідках, можа атрымацца не даражэйшым за 80—90 тысяч долараў.

*ВАКОЛ ЯДЗЕРНАЙ СПАДЧЫНЫ*

## КАНТРАКТ РАЗАРВАНЫ

Амерыканскі бок разарваў кантракт з кампаніяй, якая павінна была прыступіць да знішчэння бетонных стартавых пляцовак, што засталіся ў нас ад выведзеных у Расію балістычных ракет СС-25. І гэтая кампанія пачала ўжо вываз свайго абсталявання за межы Беларусі. Аб гэтым паведаміў памочнік міністра абароны ЗША па пытаннях стратэгіі і зніжэння пагрозы Эдвард Уорнер, які пабываў у Мінску 14 снежня ў складзе ўрадавай дэлегацыі Злучаных Штатаў. Ён растлумачыў журналістам, што ўрад яго краіны некалькі гадоў супрацоўнічаў з Беларуссю ў мэтах знішчэння рэштак ядзернай спадчыны СССР на тэрыторыі Беларусі, на гэтыя мэты была накіравана фінансавая дапамога ЗША.

— Аднак, нягледзячы на шматлікія спробы, мы не змаглі дабіцца ад кіраўніцтва Беларусі доступу на гэтыя стартавыя пляцоўкі і пачаць работы. Так ці інача ліквідаваць гэтыя пускавыя ўстаноўкі Беларусі трэба будзе ў адпаведнасці з умовамі дагавора СНУ-2, але цяпер гэта будзе ажыццяўляцца без фінансавай падтрымкі з боку Злучаных Штатаў, — падкрэсліў Э. Уорнер.

Паслу ЗША ў Мінску Д. Спекхарду было толькі заяўлена, што "ў цяперашні час беларускае кіраўніцтва не лічыць магчымым працягваць ажыццяўленне гэтай праграмы".

*У АКСАКАЎШЧЫНЕ*



У рэспубліканскім НДІ радыяцыйнай медыцыны, размешчаным у Аксакаўшчыне, ужо пяць гадоў дзейнічае сумесны беларуска-амерыканскі праект па выяўленню захворванняў шчытападобнай залозы. Ён разлічаны на 30 гадоў. У рамках праекта пастаянна ідзе абследаванне і лячэнне пацыентаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У Навукова-даследчы інстытут радыяцыйнай медыцыны пастаўляецца сучаснае абсталяванне, дыягнастычныя сістэмы, медыкаменты, вядзецца навучанне спецыялістаў.

НА ЗДЫМКУ: супрацоўнікі біяхімічнай лабараторыі Людміла КУЛІКОВА (злева), загадчык лабараторыі Ілья ДЗЯМІДАЎ, галоўны ўрач клінікі НДІ радыяцыйнай медыцыны Сяргей КАРЫЦЬКА і каардынатар праекта Эверэт МІНСІ.

*ВЯДОМЫМ ВУЧОНЫМ*

## ОРДЭНЫ АЙЧЫНЫ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні ордэнам Айчыны III ступені акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Ігнація Антонава і Мікалая Саўчанку.

Дырэктар Навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі Ігнацій Антонаў і загадчык курса ўралогіі 2-й кафедры хірургічных хвароб Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Мікалай Саўчанка ўзнагароджаны за выдатныя дасягненні ў навукова-даследчай дзейнасці і вялікі ўклад у развіццё аховы здароўя насельніцтва рэспублікі.

*З НАВАСЕЛЛЕМ!*



Добры падарунак да Новага года атрымалі працаўнікі Гомельскай ЦЭЦ-2. Амаль 100 сямей уселяцца ў гэты прыгожы дом, толькі што здадзены ў эксплуатацыю.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

МІТРАПАЛІТ Мінскі і Слуцкі Філарэт уручыў ордэн Святога Уладзіміра Івану Гурыновічу, старшыні калгаса імя Кірава Слуцкага раёна. Высокай узнагароды старшыня ўдастоены за будаўніцтва царквы ў цэнтры гаспадаркі.

15 СНЕЖНЯ суд Цэнтральнага раёна горада Мінска цалкам апраўдаў лідэра БНФ Юрыя Хадыку, які быў прыцягнуты да адказнасці за ўдзел у санкцыянаваным шэсці 23 лістапада ў Мінску і нібыта парушэнне грамадскага парадку.

ЦЯПЕР у Беларусі налічваецца каля трох тысяч фермерскіх гаспадарак. Займаючы 0,7 працэнта ад агульнай плошчы сельгасугоддзяў, фермеры вырошчваюць каля аднаго працэнта збожжавых культур і тры працэнты бульбы ад тых, што атрымліваюцца ў грамадскім сектары рэспублікі. Пры гэтым трэць гаспадарак не мае неабходнай сельскагаспадарчай тэхнікі і сродкаў на яе набыццё.

ПАПА Ян Павел ІІ накіраваў Прэзідэнту Беларусі А. Лукашэнку пасланне, у якім падзякаваў за віншавальнае пасланне і добрыя пажаданні з нагоды дзевятнаццатай гадавіны з дня ўступлення на Найсвяцейшы Прастол.

У МАСКВЕ прадстаўлены новы пасол Беларусі ў Расійскай Федэрацыі. Ім стаў Уладзімір Грыгор'еў, ураджэнец Магілёўскай вобласці, былы камсамольскі і партыйны функцыянер, старшыня Віцебскага аблвыканкома. З 1996 года У. Грыгор'еў быў першым намеснікам кіраўніка спраў Выканаўчага Камітэта Саюза Беларусі і Расіі.

МІЖНАРОДНЫ "Клуб лідэраў гандлю" і выдавецкая група часопіса "Всемирный рынок" узнагародзілі акцыянернае таварыства "Барысаўскія макароны" залатым прызам "За камерцыйны прэстыж". Гэта ўжо чацвёртая высокая міжнародная ўзнагарода беларускаму прадпрыемству з Барысава.

БЕЛАРУСКАЯ федэрацыя альпінізму заснавала нагрудны значок "Альпініст Беларусі". Значок і іманное пасведчанне да яго будуць уручацца тым альпіністам, хто паспяхова прайшоў спецыяльны курс тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўкі для падарожжаў у гарах, а таксама здзейсніў пад кіраўніцтвам інструктара ўзыходжанне на адну з вяршынь па класіфікаванаму маршруту.

*ДОБРАСУСЕДСТВА*

## ВЫСТАВА Ў РЫЗЕ

З 11 па 13 снежня ў латвійскай сталіцы адбылася выстава беларускіх вытворцаў "Беларусь ЭКСПО-97". Вось як ацаніў яе часовы паверраны ў справах Рэспублікі Беларусь у Латвіі Іван Сцепаненка.

— Жыхары Рыгі і яе госці ўбачылі на выставе вядомыя яшчэ з "саюзных" часоў "МАЗы", трактары "Беларусь", "мазаўскі" аўтобус для гарадскіх перавозак, тэлевізары "Гарызонт", "Віцязь", матацыклы, веласіпеды, камп'ютэры, гадзіннікі, шпалеры, прадукцыю Брэсцкага электралампавага завода і іншых вытворцаў.

"Беларусь ЭКСПО-97" перасягнула нашы чаканні. Мы зразумелі: выпускаемая ў нашай рэспубліцы прадукцыя цікавая для Латвіі. Ужо ў ходзе выставы былі заключаны, напрыклад, кантракты на пастаўку нашых шпалер. Імі зацікавілася каля 100 мясцовых фірм.

Былі канкрэтныя дзелавыя перагаворы аб пастаўках у Латвію нашых веласіпедаў, гадзіннікаў. А трактары "Беларусь" мясцовыя сяляне хацелі купіць непасрэдна з выставы. Так што можна смела сцвярджаць: выстава будзе мець канкрэтны і ўзаемавыгадны працяг.

*ЖЫЦЦЁ КАНФЕСІЙ*

## БУДУЮЦЦА ХРАМЫ

У Гродне, які вызначаецца сярод іншых гарадоў рэспублікі колькасцю храмаў, пачынаецца будаўніцтва яшчэ 15 культавых будынкаў. Яны будуць належаць розным канфесіям.

У горадзе 26 свяшчэннікаў, прычым 11 з іх — грамадзяне іншых дзяржаў, уключаючы ЗША. У двух гродзенскіх манастырах — праваслаўным і каталіцкім — нясуць послух 38 манашак. І 114 юнакоў вучацца ў каталіцкай духоўнай семінарыі.

*КРЫМІНАЛ*

## РАЗБОЙНЫ НАПАД

У ноч з 14 на 15 снежня сямёра невядомых, чацвёра з якіх былі ў масках, учынілі разбойны напад на дзяржаўнае прадпрыемства "Акадэмпрамбудзабеспячэнне" Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Уварваўшыся ў памяшканне прадпрыемства, размешчанае на вуліцы Жодзінскай у Мінску, і пагражаючы пісталетам, злачынцы звязалі вартаўніка, надзелі на яго наручнікі і праніклі ў офісы некалькіх фірмаў, якія арандуюць памяшканні ў будынку прадпрыемства. З іх былі выкрадзены камп'ютэры, ксераксы, радыётэлефоны, лазерныя дыскі, дыскеты, спіртныя напоі, аўтамабільныя масла і аўтамабільная касметыка. Потым злачынцы пагрузілі ўсё выкрадзенае на аўтамашыну "МАЗ" з паўпрычэпам, якая належыць "Акадэмпрамбудзабеспячэнню" і зніклі на ёй.

# З АЭРАПОРТА «МІНСК-1» — ЗА МЯЖУ

У Мінску ў аэрапорце "Мінск-1" адбылася прэзентацыя новага авіярэйса кампаніі "airBaltic" па маршруту Мінск — Рыга.

Перавозкі на скандынаўскім напрамку яшчэ ў 1996 годзе ў Беларусі пачала скандынаўская авіякампанія "SAS". Рэйс Мінск — Капенгаген праіснаваў усяго паўгода і быў закрыты, бо не карыстаўся вялікім попытам у беларускіх пасажыраў. Авіякампанія "airBaltic" Латвійскіх нацыянальных авіяліній, 29 працэнтаў акцый якога належаць "SAS", узяла на сябе перавозку пасажыраў гэтага рэйса, арганізаваўшы для іх у Рызе найбольш зручную і хуткую стыкоўку з рэйсам на Капенгаген. Аднак, мяркуючы па ўсім, да гэтага часу асноўную цікавасць у пасажыраў усё-такі выклікае рэйс Мінск — Рыга, які ўпершыню быў здзейснены 4 лютага 1997 года. Тады даволі хутка ён быў закрыты, бо практычна адразу ўзнікла сур'ёзная праблема: у аэрапорта "Мінск-1" не было міжнароднага кода МНР, без якога рэйсы з-за мяжы практычна немагчымыя. Пасля ўзгаднення з усімі авіяперавозчыкамі, якія лятаюць у Мінск, код быў прысвоены, і сёння аэрапорт "Мінск-1" мае магчымасць ажыццяўляць міжнародныя рэйсы. Такім чынам, са жніўня гэтага года пачаліся рэгулярныя рэйсы па маршруту Мінск — Рыга. З новага года да названага рэйса падключаецца авіякампанія "SAS", што дасць пасажырам магчымасць браніраваць білеты на гэты рэйс з Скандынавіі.

Спачатку для прыцягнення пасажыраў былі зроблены сур'ёзныя скідкі: у адзін канец білет каштаваў 95 долараў, туды і назад — 165. Пасля 1 студзеня цэны крыху ўзрастуць, аднак у далейшым плануюцца скідкі для пенсіянераў і моладзі, а таксама сямейныя тарыфы і скідкі для пастаянных кліентаў.

Трэба адзначыць, што "airBaltic" з'яўляецца даччынай кампаніяй славутай шведскай авіяфірмы "SAS", і ўвесь наземны і паветраны персанал латвійскай кампаніі праходзіць абучэнне ў навучальных цэнтрах Стакгольма і Капенгагена. Як правіла, абслугоўванне і продаж білетаў ва ўсіх аэрапортах, куды лятаюць самалёты "airBaltic", ажыццяўляецца "SAS", і толькі ў Мінску фірма адкрыла сваё першае самастойнае прадстаўніцтва.

Работа па прыцягненню кліентаў прымушае фірму расшыраць спектр прадастаўляемых паслуг, і сёння "airBaltic" прапаноўвае зручную стыкоўку на Нью-Йорк і білеты ў гэтым напрамку па вельмі выгаднай цане — 450 долараў.

Зручна і тое, што рэйс ажыццяўляецца з аэрапорта "Мінск-1", які знаходзіцца амаль што ў цэнтры сталіцы. Распараджэннем Савета Міністраў дзейнасць названага аэрапорта прадоўжана да 1 студзеня 2005 года, і сёння тут бачны прыкметы ажыўлення. У гэтым годзе адкрыты новыя рэйсы на Кіеў, Маскву і Кішынёў, самалётамі авіякампаніі "Мінск-Авія" ажыццяўляюцца палёты ў Стакгольм і самалётамі "airBaltic" у Рыгу. Магчыма, што на наступны год самалёты кампаніі "Мінск-Авія" пачнуць ажыццяўляць адсюль рэйсы ў Венгрыю, у Румынію і іншыя краіны. Аэрапорт "Мінск-1" атрымаў сертыфікат міжнароднага класа і на сучасны момант гатовы забяспечыць міжнародныя палёты.

Працэдуры афармлення, рэгістрацыі, таможнага і пашпартнага кантролю тут значна прасцейшыя і хутчэйшыя, чым у аэрапорце "Мінск-2", і пасажыр, які прыбыў у аэрапорт за 25 мінут да адпраўлення самалёта, мае гарантыю, што ён паспее на борт. Размяшчэнне аэрапорта ў мяжы горада дазваляе пасажыру да мінімуму скараціць час на дарогу. Аднак пэўныя складанасці можа стварыць прынятае 1 кастрычніка рашэнне аб закрыцці ў аэрапортах консульскіх аддзелаў. Гэта ўжо з'явілася прычынай непрыемных інцыдэнтаў у аэрапорце "Мінск-2", пасля чаго консульскі аддзел зноў адкрыў там свой офіс. Што тычыцца аэрапорта "Мінск-1", то хутчэй за ўсё гэта адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі павялічыцца колькасць пасажыраў.

Аэрапорт "Мінск-1" дасягнуў піка папулярнасці ў 1982 годзе, калі адсюль быў перавезены мільён пасажыраў. У гэтым годзе іх колькасць з цяжкасцю дасягае 20 тысяч. Між тым, па словах намесніка дырэктара аэрапорта "Мінск-1" Уладзіміра Мікуліча, сёння аэрапорт гатовы да абслугоўвання значна большай колькасці пасажыраў. У прыватнасці, на сённяшні дзень разглядаецца магчымасць арганізацыі тут палётаў бізнес-класа і заказных чартэрных рэйсаў, якія змаглі б ажыццяўляць невялікія самалёты замежнай вытворчасці. Зацікаўленасць у павелічэнні колькасці рэйсаў і пасажырапатоку ў даным выпадку абсалютна зразумелая, бо кошт арэнды зямлі, якую штогод плаціць аэрапорт, складае прыкладна 4 мільярды беларускіх рублёў.

Да жніўня 1997 года аэрапорт "Мінск-1" з'яўляўся даччыным прадпрыемствам аэрапорта "Мінск-2", цяпер ён атрымаў статус дзяржаўнага прадпрыемства і ўваходзіць у склад вытворчага аб'яднання "Белавіярамонт", куды акрамя яго ўваходзяць Мінскі авіярамонтны і Аршанскі рамонтны заводы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*ПАМЯЦІ ВАЙНІЛОВІЧАЎ*



**Напярэдадні Каляд у Дольнай зале Чырвонага касцёла ў Мінску адбылася прэм'ера. У пастаноўцы духоўнага тэатра "Анёл" прайшоў спектакль пад назвай "Храм". Яго жанр вызначаны як духоўная споведзь — твор, прысвечаны памяці заснавальніка касцёла Эдварда Вайніловіча, яго жонцы Алімпіі і іх дзецям Сымону і Алене.**

**Фота Міхаіла МІНКОВІЧА.**

# РУБЕН АТАЯН, КАРТОГРАФ І МАСТАК, ЗАПРАШАЕ Ў ПАДАРОЖЖА

**(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).**

іх трэба самастойна, што вельмі няпроста. Сёння я супрацоўнічаю з польскай і расійскай, некаторымі прыватнымі беларускімі фірмамі.

**— Ці дазволіў разбагацець атрыманы новы статус і супрацоўніцтва з замежнікамі?**

— Смяецеся? Усё маё багацце — чатырохпакаёвая кааператыўная кватэра. Хаця тэарэтычна — так, тое, што я выконваю, каштуе вялікіх грошай. Прынамсі, абавязковая ўмова замежных заказчыкаў — толькі ручная работа, ніякага камп'ютэра. Там на вокладках выдаваемых карт партрэт аўтара змяшчаюць з пяром у руках — дзеля большай пераканаўчасці, што праца выканана менавіта ўручную.

Вы кажаце — багацце! Шмат маіх арыгіналаў ужо мне нават і не належаць, і ад перавыдання я нічога не атрымліваю, часам перавыдадзенай карты таксама.

**— Рубен Уладзіміравіч, ваша работа надзвычай карпатлівая. Вы не стамляецеся ад яе?**

— Яшчэ зусім нядаўна я з упэўненасцю адказаў бы — не. Аднак зараз ужо ведаю, і што такое стома, і расчараванне, і нават, у нейкай ступені, дэпрэсія. Калі раней, ледзь падняўшыся з ложка, хутчэй бег да стала, цяпер здараецца амаль прымушаць сябе. Бывае, з'яўляецца сумненне: а ці патрэбна гэта каму-небудзь яшчэ, акрамя цябе самога? І тым не менш я сваю работу любіў і люблю. Яна забірае ўвесь мой час, і я пра тое не шкадую. Вось, дарэчы, гляджу: сын пачынае захапляцца "маленькімі" карцінкамі. Адну з маіх першых панарам — дзіцячы парк імя Горкага я, можна лічыць, прысвяціў дачцэ і сыну, якія тады былі яшчэ зусім маленькімі. Я намаляваў іх на самой карце, а таксама герояў любімых мультфільмаў. Мне здаецца, атрымалася нядрэнна. Знаёмая стала сведкай: у парку, дзе прадавалася карта, маці прапанавала на выбар — купіць марожанае ці карту. Дзяўчынка, не вагаючыся, аддала перавагу карце. Здаецца, дробязь, але і сёння з прыемнасцю згадваю той выпадак.

**— Колькі часу неабходна на падрыхтоўку панарамы?**

У залежнасці ад велічыні і насычанасці ўчастка — ад чатырох-пяці месяцаў да паўтара-двух гадоў. Маскву малюю другі год запар і ніяк не выберуся за межы Садовага кальца, вельмі ўжо няпросты горад — як у архітэктурным плане, так і ў арганізацыйным. Ёсць там, напрыклад, Калпачны завулак. Ён у самым прамым сэнсе апынуўся "пад каўпаком" шматлікіх ахоўнікаў і вартаўнікоў, што сцерагуць бяспеку і спакой размешчаных у тым месцы шматлікіх кантор і ўстаноў. Колькі я ні тлумачыў: маўляў, маю дазвол улад, ні за якімі сакрэтамі не ганяюся, са мной і размаўляць не сталі: ідзі адсюль — і ўсё. Аналагічная сітуацыя была і са штабам ваеннай акругі ў Мінску.

**— Якое ж тады выйсце?**

— Запомніць зрокава "сакрэтны аб'ект", а потым па памяці намаляваць. Хаця, канешне, праблема застаецца. Хочацца зрабіць панараму як мага дакладней, аднак часта сапраўды не маю на тое права: існуюць афіцыйныя забароны адносна прамысловых зон і г. д.

**— Рубен Уладзіміравіч, ці многа калег-канкурэнтаў вы ведаеце?**

— На вялікі жаль, практычна нікога. Калі казаць пра замежжа — у Германіі ёсць адна фірма, дзе панарамная картаграфія практыкуецца на вельмі высокім узроўні, таксама ў ЗША і Канадзе. А ў цяперашнім СНД мне цяжка кагосьці назваць.

Між іншым, традыцыі карт-панарам вельмі старыя. Калісьці гэтым займаліся манахі-пустэльнікі. У гданьскім музеі-бібліятэцы мне паказалі вялікі атлас фламандскай школы "Civitatas orbis terrarum" — "Гарады свету", выдадзены ў 1577 годзе Георгам Браўнам і Францам Хагенбергам. На старонках гэтага рарытэта (вядомыя толькі тры экземпляры кнігі) занатаваны асноўныя заходнееўрапейскія гарады, але ёсць нават паўночнаамерыканскія паселішчы. Там я пабачыў і выяву нашага Гродна.

Пасля тых старадаўніх манахаў-пустэльнікаў мастацтва панарамных карт паціху зусім сышло. Венецыю ў такім аб'ёме і з такой дакладнасцю, як зараз раблю я, малявалі сто пяцьдзесят год назад, Гданьск — сто. Каб зрабіць падобную працу, патрэбны сотні замалёвак, фотаздымкаў. Мне здаецца, сёння я ведаю Венецыю лепей за Мінск! А як цікава было працаваць над картай замка Мальбарк, дзе шмат музеяў, ды і саміх замкаў, калі быць дакладным, не адзін, а тры. Я падымаўся на вежы, разглядваў пакоі, бо спатрэбілася рабіць так званы "разрэз" — паказаць некаторыя памяшканні, архітэктурныя асаблівасці нібы знутры. Урэшце, я заўсёды імкнуся, каб не было нічога прыдуманага. Сёлета, напрыклад, у мяне выйшла карта Кракава, на якой нават у дэталях афармлення выкарыстаны выключна "натуральныя" кракаўскія фарбы, узоры, рэчы. Мне казалі, бургамістр Гданьска не толькі знайшоў на маёй гданьскай карце свой дом, што зусім не дзіўна, але адзначыў: крона намаляванага дрэва захінае адно з вокнаў дакладна так, як у рэальнасці. Праўда, сам я нават і не ведаю, дзе той дом. Хаця здараюцца і памылкі: на карце Санкт-Пецярбурга ў адной з пабудоў пераблытаў колькасць паверхаў.

Канешне, работа няпростая. Пра гэта сведчыць ужо хаця б такі факт: польская кампанія, якая заказвала Кракаў, хацела размясціць паліграфічнае выкананне карты ў адной з цюрыхскіх фірм, што займаецца друкаваннем швейцарскіх грошай. Але хутка ад гэтай ідэі адмовіліся: там не здолелі забяспечыць неабходную якасць! Зараз карта выйшла, але прэтэнзіі да якасці яе выдання так і засталіся.

**— Рубен Уладзіміравіч, а проста жывапіс вы зусім закінулі?**

— Практычна, так. Прынамсі, апошнія дзесяць год. Уся ўвага і сілы — картам. Як бы ні было сёння складана, веру: надыдзе час, і яны будуць ацэнены па вартасці.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**





**НА ЗДЫМКАХ: Рубен АТАЯН; карта-панарама Мірскага замка.**

ТРАДЫЦЫІ

# ШЧОДРЫ ВЕЧАР

Адразу пасля вайны цяжка жылося ў вёсцы. Не было ў што абуцца і апрануцца. І голад даймаў, але чамусьці мне, чалавеку ўжо ў гадах, цяжкае пасляваеннае дзяцінства прыгадваецца не ў змрочных, а больш у светлых фарбах. Чаму? Відаць, таму што з роднай вёскі выгналі фашыстаў і мы, дзеці вайны, вярнуліся ў яе, спаленую да апошняй хаты, з лесу, дзе ўсю вайну хаваліся ад карнікаў, пачалі жыць у зямлянках і шалашах, пайшлі ў лапцях і чунях вучыцца ў школу, якая была размешчана ў наспех збудаванай хаціне. І была яшчэ адна радасць: святкаваць розныя колішнія каляндарныя святы: Вялікдзень, Сёмуха, Спас, Пакровы, Каляды. Гэтыя святы мы, малыя, чакалі з асаблівай нецярплівасцю. Яно і вядома, бо на Вялікдзень маці заўсёды папашые паркалёвую ці палатняную сарочку, прыпасе да гэтага дня сякога-такога харчу, каб нас, дзяцей, пакарміць. Ды і працаваць у гэты дзень па гаспадарцы не прымушалі. Так было і на Сёмуху, на Пакровы.

Але вось Каляды... Гэта было асаблівае свята, і цягнулася яно некалькі дзён. У гэтыя дні можна было ўжо добра наесціся. На свята заўсёды забівалі свінчо, рабілі кілбасы, гатавалі смачную прасяную кашу. І яна, як самы пачэсны госць, у калядныя дні заўсёды стаяла на покуце. У гаршку. Да самага канца Каляд. Пакуль зноў не пачыналіся посныя дні. У час Каляд быў асаблівы вечар, якога мы, малыя, чакалі з хваляваннем — гэта Шчадрэц, калі дарослыя і мы, дзятва, хадзілі па хатах калядаваць. Найбольш калядавалі пад вокнамі. Выйдзем, бывала, у зімовы вечар на вуліцу і чуем, як на розныя галасы ва ўсіх канцах вёскі гучаць калядныя песні. І сам не вытрымліваеш, бярэш палатняную торбу, клічаш сваіх вулічных сяброў і пачынаеш хадзіць пад вокнамі ад хаты да хаты, галасна выводзячы калядныя песні. А ведалі гэтых песняў мы шмат. Ад старэйшых пераймалі. Асабліва любілі спяваць пра казу: "Ого-го, каза, ого-го, сера, дзе ты хадзіла, што ты рабіла..."

Нам за песні і калядныя віншаванні выносілі вяскоўцы з хат пернікі, капейкі, пусты хлеба, кавалкі сала, нават кілбасу. А часам запрашалі ў хату, каб пачаставаць нас, малых каляднікаў, чым-небудзь смачным. Найбольш кісялём з журавін. А цяпер?

Настаў Шчадрэц, вечар калядных песень і забаў. Сяджу ноччу на дзяжурстве. І раптам грукочуць у дзверы. Адчыняю. Бацюхны мае! За парогам — гурт малых, размаляваных, як клоуны, прыбраных у нейкія лахманы. Доўгія хусткі, акуляры. Зацягнулі песню — нічога не разберу: хто ў лес, хто па дровы. Бу-бу-бу — ды і толькі. Адно пачуў: "Каляда, Каляда!" Папрасіў галасней ды выразней спяваць. Зноў — тая ж прапява — гудуць, як чмялі, а слоў не разабраць. Потым адна дзяўчынка, пераапранутая ці то ў цыганку, ці то ў вясковую модніцу, перабіла ўсіх: давайце, маўляў, я спяю. Толькі з яе песні і ўлавіў нейкі сэнс. Але ж гэта была не калядная песня, а нейкія прыпеўкі. Ну і няхай. Насыпаў ім у кішэні цукерак, і "каляднікі" з гоманам паімчаліся на вуліцу. А потым прыходзілі калядаваць і дарослыя, моладзь. Заўважыў адно — стараюцца адтарабаніць калядку абы-як. А гэта ўжо халтура. І наўрад ці яна спадабаецца тым, да каго прыносяць гэтыя калядныя песні.

Раней як было: рыхтаваліся да свята загадзя, наладжвалі спеўкі, як бы рэпетыцыі, рабілі касцюмы, майстравалі і ўпрыгожвалі "звязду". І музыкі былі з гармонікам, бубнам, а то і са скрыпкаю ці цымбаламі. А ўвойдуць у хату — гоман, смех, спевы. Канцэрт дый годзе! Усім весела, цікава, прыгожа. Тут і каза, і мядзведзь, і жораў, і кабыла. А ў бліскучай "звяздзе" гарыць сонейкам свечка.

Аж да Вадохрышча, да 19 студзеня, цягнуліся Каляды. У гэты час гульні мелі не толькі забаўляльны характар, але і рысы спецыфічнай каляндарна-аграрнай абраднасці беларусаў.

Ведаю, дзе-нідзе людзі чакаюць каляднікаў. Асабліва цяпер, калі Каляды нават наш беларускі парламент з цяжкасцю прызнаў за свята. Значыць, яшчэ поўнасцю не страцілі пачуцця еднасці з народам, які моцны сваімі традыцыямі, звычаямі. Не так даўно да такіх народных свят афіцыйныя ўлады ставіліся негатыўна, нават забараняні іх. І святы гэтыя ў многім страцілі свае рысы, непаўторнасць, нават забыліся. Аднак час мяняецца. Дык і ў Калядах няма нічога, што было б звязана з ідэалогіяй, шкоднай у маральным і эстэтычным аспектах. Дык чаму ж нам, беларусам, і не заспяваць на Каляды добрую песню, што імітуе непарыўную сувязь чалавека з навакольем, сонцам, жыццём прыроды. Мы маем права на веру ў надыход цяпла, хутчэйшага абуджэння з зімовага сну зямелькі-карміцелькі. Наіўна? Ну і няхай. Але ж верай у шчаслівую будучыню жыве чалавек.

Ад бацькоў я запомніў гэтую калядную песню. Можа, прыйдзецца яна каму даспадобы і загучыць у час Каляд:

**На новае лета**
**Хай родзіць жыта.**
**Шчодры Вечар,**
**Багаты Вечар!**
**Жыта, пшаніца,**
**Уся пашаніца.**
**Шчодры Вечар,**
**Багаты Вечар!**
**Дай табе слаўны,**
**Пане-гаспадару,**
**Шчодры Вечар,**
**Багаты Вечар!**
**Залезь на бляску,**
**Дастань каўбаску.**
**Шчодры Вечар,**
**Багаты Вечар!**

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

З ЛІТВЫ

# ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ М. КУЛІКОВІЧУ

У таварыстве беларускай культуры Вільні адбылася імпрэза, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Міколы Куліковіча і гадавіне Слуцкага паўстання. Пра падзеі 1920 года распавёў сябра ТБК А. Старавойтаў, дапоўніў Хведар Нюнька. Потым слова браў Леанід Мурашка, які нарадзіўся ў вёсцы Сіняўка, дзе было разбіта паўстанне, праз некалькі гадоў пасля падаўлення. Але ён жыў сярод тых, хто прымаў удзел у паўстанні, слухаў іх расповяды. У Вільні вучыўся разам з іх дзецьмі. Падчас наведвання беларускага музея ў Вільні (1938—1939 гады) Л. Мурашка бачыў сцяг (распавядалі, што пад гэтым сцягам паўсталі слуцкія вяяры за незалежнасць Беларусі), потым, пасля ліквідацыі музея, ён знаходзіўся ў Зоі Каўшанкі — былой вучаніцы беларускай гімназіі. Зачыталі віншаванне да беларусаў Літвы ад Раісы Жук-Грышкевіч з Канады, там традыцыйна адзначаюць угодкі паўстання, у нас — толькі ў апошнія некалькі гадоў.

Пра беларускага кампазітара, спевака, фалькларыста Міколу Куліковіча-Шчаглова, імя якога доўгія гады было ў забыцці, паведамілі заслужаны артыст Літвы Леанід Мурашка, прачытаў нізку вершаў М. Куліковіча, апублікаваных А. Мальдзісам. Напрыканцы вечарыны прагучалі песні "Ты прыдзі", "Поле, ты, поле" (словы Я. Купалы), "Я ад вас далёка" (словы Я. Купалы), "Васілёчкі" (словы М. Кавыля), "Дзед і баба" ў апрацоўцы М. Куліковіча (са зборніка "Беларускія песні", выдадзенага ў Кліўлендзе) у выкананні Л. Мурашкі, А. Старавойтава, В. Кавальчук і В. Івановай.

Вечарына атрымалася змястоўнай і цікавай. Многія ўпершыню пачулі пра вядомага за мяжой і доўгія гады забароненага на Радзіме Міколу Куліковіча. Ды і пра Слуцкае паўстанне не так многа вядома. Случакі, якія паўсталі 27 лістапада 1920 года, уваўлілі ў гісторыю як змагары за нашу дзяржаўнасць, за вольную Беларусь.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

## НАС ВІНШУЮЦЬ І ЗЫЧАЦЬ...

**Вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага года! Зычым поспехаў у працы ўсяму калектыву рэдакцыі "Голасу Радзімы". Пашырайце беларускае слова не толькі ў дыяспары, але і ў Беларусі.**

**БУДКЕВІЧЫ.**

Англія.

**ДАРАЖЭНЬКІЯ МАЕ!**

**Хачу вас усіх павіншаваць з Ражаством Хрыстовым, а там і Новы год на парозе — 1998. Віншую шчыра! Хай прынясе ён вам добры настрой, моцнае здароўе, лепшае жыццё. Будзьце аптымістамі.**

**Вялікі вам дзякуй за "Голас Радзімы", які чытаю ўжо многа гадоў і заўсёды чакаю з нецярплівасцю вестак з роднай Беларусі.**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

**Віншуем са святамі — Калядамі і Новым, 1998 годам!**

**Зычым рэдактару і ўсім супрацоўнікам газеты "Голас Радзімы" здароўя, вытрываласці і поспехаў у выданні газеты. Мы чытаем яе ад А да Z і сумуем, калі своечасова не атрымліваем.**

**Тамара і Міхась БЕЛЯМУКІ.**

ЗША.

**Вясёлых Калядных свят і шчаслівага, лепшага новага года жадаю ўсёй рэдкалегіі "Голасу Радзімы".**

**Алесь ГАТКОВІЧ.**

Англія.

**Паважаныя супрацоўнікі таварыства "Радзіма" і рэдакцыі газеты "Голас Радзімы"!**

**Ад імя Тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Ольштыне дасылаем вам сардэчныя віншаванні з Новым, 1998 годам. Усіх супрацоўнікаў шчыра віншуем са святам Нараджэння Хрыстова. Жадаем добрага вам здароўя і вялікага плёну ў працы! А таксама спакою і стабільнасці ўсёй краіне, каб перадолела яна ўсе цяжкасці і супярэчнасці.**

**Удзячныя за газету, якую атрымліваем штотыдзень.**

**Са шчырай павагай**

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК, старшыня Тэрытарыяльнай рады БДА.**

Польшча.



# ДОМ НАЗВАЛІ ПОЛЬСКІМ

У лідскай філіі Саюза палякаў Беларусі — наваселле. З аднаго цеснага пакойчыка жыллёва-камунальнай службы на вуліцы Таўлая яна пераехала ў новы будынак, спецыяльна для яе ўзведзены ў цэнтры горада, каля стадыёна.

Польскі дом, як яго паспелі назваць лідчане, вялікі, прыбаны. Нават у пахмурнае надвор'е ён у параўнанні з суседнімі дамамі выглядае святочна. Арыгінальная архітэктура, удалая афарбоўка надаюць яму гэтую святочнасць.

І ўсярэдзіне ён цудоўны. Прасторныя холы, шматлікія пакоі на двух паверхах аздоблены прыгожа.

— Мы сваім домам вельмі задаволены, — з радасцю гаворыць яго работнікі. — Праўда, ён доўга будаваўся, але затое цяпер умовы тут... Пра такія можна было толькі марыць.

Актавая зала на 200 месцаў, прасторная, светлая. Пакой для вывучэння польскай мовы, пакоі для работы розных гуртокў.

— А паглядзіце, якая ў нас бібліятэка! — з гонарам паказвала вялікую залу, устаўленую стэлажамі, бібліятэкарка Алена Якубоўская. Яна энтузіяст сваёй справы. Нарадзілася ў Лідзе, тут скончыла сярэднюю школу, затым у Польшчы — Люблінскі універсітэт. Вярнулася на радзіму.

У бібліятэцы больш як дзесяць тысяч кніг на польскай мове. Тут і мастацкая, і для дзяцей, і навуковая, і іншая літаратура. Наведвальнікаў хапае. Вось і цяпер завітала сюды Марыя Буткевіч з дачкой Аняй. Яна таксама лідчанка, тут скончыла сярэднюю школу. Выйшла замуж, жыве ў Польшчы, вучыцца ў Варшаўскім універсітэце. Пры выпадку заглядвае да сваіх былых таварышаў па службе: у Лідзе яна працавала з харцэрамі.

У Польскім доме разгортваецца работа. У яго перайшлі ранейшыя падраздзяленні філіі, якія месціліся хто дзе, створаны і ствараюцца новыя. Дзейнічаюць клубы жанчын, настаўнікаў — выкладчыкаў польскай мовы, маладзёжны. Яны наладжваюць дыскатэкі, вечарыны, абмяркоўваюць свае праблемы. У суботне-нядзельнай школе больш за сто чалавек, яны розных нацыянальнасцяў.

Шматлікая і мастацкая самадзейнасць. Шэсць ансамбляў ужо набылі вядомасць, асабліва "Прыяцелі". Яны выступалі ў Беластоку (Польшча), Гродне, Іўі, Воранаве, у сваім горадзе, ладзілі фестывалі, конкурсы. Толькі што створаны драматычны тэатр.

У падраздзяленнях цікава дарослым і дзецям. У клубе сібіракоў (тых, хто быў сасланы ў Сібір) 54 чалавекі. У юнацкай дружыне харцэраў 32 хлопчыкі і дзяўчынкі. Ёсць секцыя аэробікі.

Усё гэта трымаецца на энтузіязме, на ініцыятыве. Ніхто нават зарплату не атрымлівае.

Пабудавала Польскі дом польская фірма з Кракава. Грошы выдзелены з бюджэту Польшчы. Паколькі дом будаваўся некалькі год, узніклі цяжкасці. Па праекце, грошай павінна было хапіць і на ўзвядзенне будынка, і на поўнае абсталяванне ўсіх памяшканняў у ім. Але за гэты час, у выніку інфляцыі, разлічаная сумы яўна не хапае. Давялося пастаўіць у бібліятэцы старыя стэлажы. Няма сродкаў на набыццё крэслаў для актавай залы. Работнікі Польскага дома разлічваюць на дапамогу спонсараў.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Дом Саюза палякаў Беларусі ў Лідзе.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



*«СЯБРЫНЕ» — 10 ГАДОЎ*

# ПЕСНІ ПРОСІЦЬ ДУША

*Штодзённымі клопатамі*
*поўна людское жыццё.*
*Але, калі зварухнецца*
*душа чалавека,*
*толькі песня здолее*
*спатоліць яе.*
*Шануйце ж песні свае!*

**Максім БАГДАНОВІЧ.**



Вечарыну адкрыла вядучая клуба "Сябрына" Валянціна Іванова. Хору "Сябрына" споўнілася 10 гадоў. А пачынаў ён сваю дзейнасць у 1987 годзе. На пачатку XX стагоддзя ў Вільні існавалі беларуская гімназія, школы, музей, выходзілі беларускія газеты, гучала і беларуская песня, ладзіліся вечарыны. Пасля прыходу бальшавікоў ўсё было зачынена, забаронена і песня. Адрадзілася яна толькі ў 60-я гады, калі вярнуліся з-за сталінскіх кратаў браты Лявон і Юры Луцкевічы. Тады неафіцыйна збіраліся ў лясной хатцы Зоські Верас у Панарах, ізноў у цесным коле сяброў загучала беларуская песня.

А ў канцы 80-х гадоў, калі ў краіне пачалася перабудова, літоўскія ўлады дазволілі збірацца ў памяшканні Палаца прафсаюзаў. Тады пачаў ствараць хор. Ініцыятарамі былі Лявон Луцкевіч, Лявон Кароль, Мікола Рулінскі (былыя вучні Віленскай беларускай гімназіі), кіраваў хорам Юра Зямніцкі (выпускнік Літоўскай кансерваторыі, спяваў нейкі час у тэатры оперы і балета Літвы і трыццаць гадоў быў салістам Літоўскай філармоніі), канцэртмайстар хору ягоная дачка — Таццяна Скорая (выкладчык Літоўскай кансерваторыі). У хор прыходзілі тыя, хто любіць спяваць, хто любіць народную песню, хто цікавіцца культурай народа, бо песня — гэта душа народа, яна невычарпальная. Кампазітары ўсіх часоў знаходзілі ў ёй асалоду, думку, яна натхняе, перадае пачуцці і жаданні. У народнай песні знайшлі сваё адлюстраванне свабодалюбівы характар беларусаў, іх працоўная дзейнасць, узаемаадносіны, апаэтызавана навакольная прырода.

Пачалі спяваць песні 1918 года, як Беларусь паўстала. Потым рэпертуар папаўняўся новымі песнямі. У 1989 годзе хор пачаў выступаць з канцэртамі: спачатку ў Палацы прафсаюзаў, потым у Грычышках, на вулачках старога горада падчас святкавання Дзён славянскай пісьменнасці. У тым жа годзе хор выступаў у Беларусі, у вёсцы Варняны, на свяце "Пра ўсё сказаць прыйшла пара". Мінула амаль 10 гадоў, але гэтае свята засталося ў памяці. Тады яшчэ не было мяжы, прыехалі беларусы з Літвы, госці з Мінска — Адам Мальдзіс і Сяргей Панізьнік, была наладжана выстава беларускіх кніг, вырабаў народных умельцаў, чыталі вершы, спявалі песні.




Хор "Сябрына" выступаў на розных гарадскіх мерапрыемствах у Вільні і іншых гарадах Літвы. Да 1995 года кіраваў хорам Юра Зямніцкі, далей працягваць працу не змог па стану здароўя. У Юры Іосіфавіча рознабаковыя захапленні. Многа гадоў займаецца варошчваннем кактусаў, ствараe максімальна натуральныя ўмовы для кветак. А кактусы цвітуць круглы год. Іх у Ю. Зямніцкага некалькі тысяч. Ён ніколі не губляе пачуцця гумару, аптымізму. А грэюць Юры Зямніцкага пражытыя гады, і амаль шэсцьдзесят з іх — разам з песняй і музыкай.

У хор прыйшла новая кіраўніца — легендарная Валянціна Кавальчук, вясёлая, жыццярадасная, таленавітая. Яна ўсіх пакарыла дабрынёй. Калі сустракаеш неардынарнага чалавека, хочацца пра яго расказаць.

Нарадзілася Валянціна ў вёсцы Даніловічы Дзятлаўскага раёна. Колькі сябе помніць, столькі і спявае. Яе бабуля і мама добра спяваюць і ведаюць шмат беларускіх песень. У Валянціны яшчэ адно захапленне: яна любіць жывёл, асабліва коней. З дзяцінства марыла быць спявачкай альбо каняводам. У першым класе заняла першае месца ў конкурсе юных спевакоў, паехала ў Слонім. Песня перамагла, Валянціна вучылася ў сярэдняй школе, адначасова у музычнай у Наваельні і многа-многа спявала. Потым паступіла ў Мінскі інстытут культуры на харавое дырыжыраванне. Сапраўды гавораць: адзін працэнт таленту і 99 працэнтаў працы, тады атрымаецца добры вынік. У інстытуце ёй пашанцавала, яна трапіла ў рукі добрым выкладчыкам.

У 1986 годзе скончыла інстытут, ва ўсіх было жаданне застацца ў Мінску. А Валянціна разам з сяброўкай Таццянай Паўлоўскай (Шлейка па мужу) выбралі вёску. Валянціна — Даніловічы, а Таццяна — Мілавіды Баранавіцкага раёна, дзе і зараз працуе. Валянціна нядоўга працавала ў вёсцы, выйшла замуж і прыехала ў Вільню.

Цяпер Валянціна Кавальчук выкладае музыку ў беларускай школе імя Ф. Скарыны (у гэтай школе вучацца і яе дзяўчынкі Таццяна і Наталля) і кіруе хорам клуба "Сябрына". Яшчэ толькі год, як яна працуе з калектывам. За кароткі час змагла падняць хор на больш высокі ўзровень, расшырыўся рэпертуар. Валянціна не прыходзіць на рэпетыцыі, а ўлятае, акрыленая, з воклічам: "Я знайшла новую песню!" І праспявае так, што не палюбіць яе нельга, а потым яна становіцца шлягерам. Так сталася з песнямі на словы Уладзіміра Някляева "Сёння ў нашай хаце свята", "Каліна-ягада". У рэпертуары хору каляндарна-абрадавыя, сямейна-абрадавыя, любоўныя, бытавыя, бяседныя, жартоўныя і сучасныя песні. У планах хору песні на словы сучаснага беларускага паэта Леаніда Дранько-Майсюка.

У памяшканні дэпартамента нацыянальных меншасцяў Літвы адбылася творчая сустрэча з удзельнікамі хору. У зале была арганізавана выстава малюнкаў вучаніц беларускай школы Карыны Мірашнічэнка і Маргарыты Стральчэні. З цікавасцю слухалі прысутныя "летапіс" хору, якую распавёў саліст, ініцыятар і першы ўдзельнік — Лявон Кароль. Па яго прапанове прысутныя хвілінай маўчання ўшанавалі памяць тых удзельнікаў хору, якія пайшлі з гэтага жыцця. Памыляюцца тыя, хто лічыць, што людзям старэйшага ўзросту патрэбен толькі кавалак хлеба ды медыцынская дапамога. Як паветра, ім неабходныя зносіны, без чаго не можа быць паўнацэннае чалавечае існаванне. З многімі з харыстаў мне даводзілася размаўляць, і ўсе яны гаварылі прыкладна так: без песні жыццё было б шэрым і бессэнсоўным. Вось імёны гэтых людзей: салістка і ўдзельнік з першага дня існавання хору — Наталля Яруліна, саліст — Лявон Кароль, Неаніла Конанава, Кацярына Ілюшына, Серафіма Пугачова, Ніна Шумская, Эльвіра Палуцкене, Таіса Суруда, Міраслава Піваварчук, Ларыса Далданава, Сафія Рыбакова, Вераніка Мяшчэрына, Ніна Меньжынская, Андрусь Старавойтаў і самая галоўная — "наша Валянціна", так яе з любоўю называюць, — кіраўніца Валянціна Кавальчук.

Мара ў калектыву з'ездзіць на Бацькаўшчыну, каб на гістарычнай Радзіме ўбачылі і пачулі, як у Вільні ўмеюць спяваць і шануюць роднае слова, пасябраваць, каб з Беларусі часцей прыязджалі ў Літву, наладзіць сувязі.

А пакуль хор "Сябрына" адзначыў 10 гадоў існавання. Іх павіншаваў прэзідэнт беларускіх згуртаванняў у Літве Л. Мурашка, кіраўнік ТБШ Л. Слесарава, кіраўнік "Сябрыны" Р. Вайніцкі, І. Лаўрынавічус — рэжысёр і рэдактар беларускай перадачы на хвалях літоўскага радыё. Словы ўдзячнасці былі сказаны ў адрас былога кіраўніка клуба "Сябрына" Валянціна Стэха. Ён шмат зрабіў, каб хор меў сваё памяшканне, нацыянальныя касцюмы, музычныя інструменты.

Доўга зацягнулася вечарына, ніхто не спяшаўся разыходзіцца, усім было добра, утульна, спявалі, танцавалі, жартавалі. У канцы на школьным аўтобусе, які прадаставіла дырэктар беларускай школы спадарыня Галіна Сівалава, усіх развезлі па дамах.

Для прысутных вечарына стала сапраўдным святам.

**Леакадзія МІЛАШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: першы кіраўнік хору "Сябрына" Ю. ЗЯМНІЦКІ і яго дачка Таццяна СКОРАЯ. 1996 г.; выступае хор "Сябрына" на свяце песні ў Вісагінасе. Кіруе Валянціна КАВАЛЬЧУК.**

З КРЫНІЦ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАГА ПАМЕЖЖА

Нядаўна выдавецтва "Borussia" ў Ольштыне выпусціла том прозы Тамары Болдак-Яноўскай, які называецца "Opowiadania naiwne".

Нагадаю, што Т. Болдак-Яноўская вядомая ў нас паэтка, эсэістка, мастачка і скульптар беларускага паходжання. Уся яе багатая творчасць мае глыбокія карані ў культуры так званага памежжа, і, магчыма, гэтым тлумачыцца тая вялікая цікавасць, якую праяўляюць да яе і звыклыя чытачы, і навукоўцы Інстытута ўсходняга славянства ў Ольштыне, якія займаюцца менавіта гэтай праблематыкай.

Аўтар нарадзілася на Беласточчыне, там прайшлі яе дзяцінства і ранняя маладосць, потым вывучала рускую філалогію, будучы студэнткай Варшаўскага універсітэта. Жыццёвыя сцежкі прывялі яе ў Ольштын, але дзе б яна ні жыла, заўсёды памятала пра свае карані, пра свае беларускія вытокі. Гэта і знайшло адлюстраванне ў яе паэтычнай творчасці, у прозе, у яе карцінах і скульптуры. "Наіўныя апавяданні" — найлепшае таму пацвярджэнне. Назва кнігі можа завесці ў зман чытача сваёй двухсэнсоўнасцю, але перад намі не наіўныя літаратурныя спробы, а самая сапраўдная літаратура, якая заслугоўвае таго, каб ёю ўсур'ёз зацікавіцца.

# СХІЛІЦЦА НАД ЧАЛАВЕКАМ, або ЯШЧЭ РАЗ ПРА ТВОРЧАСЦЬ ТАМАРЫ БОЛДАК-ЯНОЎСКАЙ

Вельмі трапна акрэсліў сутнасць яе творчасці вядомы паэт і выдавец Казімеж Браканецкі: "Бадай што ўсе апавяданні, паэзія, эсэ Тамары Болдак-Яноўскай бяруць свой пачатак з крыніц памежжа. Я разумею пад гэтым не толькі беларуска-польска-татарскае паходжанне аўтара, не толькі "крэсавае" месца, не тэматыку яе творчасці, а перадусім запрапанаваную ёю вівесекцыю, ускрыццё сучаснага свету канца XX стагоддзя, які характарызуецца драматычнымі гранічнымі сітуацыямі (сэнс жыцця, сэнс тоеснасці, сэнс свабоды, адзінка — калектыў, жанчына — мужчына!.."

Менавіта гэты сучасны свет, а перадусім чалавек, які рухаецца ў яго лабірынтах, чалавек са сваёй дзіўнай часам тоеснасцю, са сваімі нібы незвычайнымі вартасцямі, на першы погляд дзівачлівымі жэстамі і фразамі складаюць надзвычайнай сілы прыцягальнасць апавяданняў. Прызнаюся, што мяне найбольш захапляюць менавіта героі прозы Тамары Болдак-Яноўскай — польскія беларусы, часам наіўныя, часам забаўныя, але заўсёды разважныя, з вялікім жыццёвым вопытам, так цвяроза ўспрымаюць яны ўсё, што завецца жыццём. Да таго ж яны, простыя вясковыя рацыяналісты, здольныя нечакана, у пэўны момант свайго нялёгкага жыцця, выявіць нязвыклую паэтычнасць характару.

Т. Болдак-Яноўская іх не прыдумала, а даведалася ўсё пра сваіх герояў, дзякуючы назіранню, таму што палову свайго жыцця пражыла ў беларускай вёсцы на Беласточчыне. Але гэтага было б мала, каб не валодала аўтар здольнасцю мастацкага абагульнення. Вось Ліда Ценьчык — просценькая, з пункту гледжання інтэлектуальнага, але з такой чуллівай душой, — вырашыла раптам спасцігнуць сутнасць твораў Леніна, бо, як сама прызнаецца, "можа і меў якую рацыю". Папросту яна не хоча бескрытычна, на веру ўспрымаць акаляючы яе свет: яна імкнецца штосьці ў ім зразумець. А Натка — русіцыстка, якая амаль усё жыццё прысвяціла навучанню рускай мовы ў нейкай там школе, нечакана ў выніку незразумелых вышэйшых рашэнняў аказалася на мяжы трагедыі. Змяніліся рэаліі жыцця, і яна апынулася за яго бортам. Заўдавелы стары Пац на чацвёртым годзе пасля смерці жонкі ажаніўся. Адчуў, што такое каханне, хаця сябры і строяць кепікі, гледзячы на яго паводзіны: "Ходзіць бы той маладзён, тут саскубне травінку, там сарве каласок. Шырока ходзіць. Шчаслівым стаў пад старасць".

Т. Болдак-Яноўская жыве жыццём сваіх герояў, ведае іх рэакцыю да тонкіх нюансаў і з небывалым стаўленнем да кодэкса іх годнасці перадае ўсё чытачу. У гэтым і заключаецца высокае майстэрства яе апавяданняў, хутчэй — мініяцюр, прасякнутых не толькі дасканалым веданнем эпасу польскіх беларусаў. Нават самым простым учынкам сваіх герояў аўтар надае паэтычныя вымярэнні. Але ўсё гэта грунтуецца на рэальнай рэчаіснасці. Яе героі жывуць тут і цяпер, змагаюцца з рознымі штодзённымі супярэчнасцямі, але заўсёды імкнуцца зразумець акаляючы іх свет. Яны талерантна ставяцца да розных людскіх дзівосаў, аднак не зразумеюць фальшывасці, маны, неталерантнасці. Яны проста добрасумленныя людзі і таго ж вымагаюць ад усіх. І напэўна ў гэтым заключаецца глыбокі гуманізм невялічкіх апавяданняў Т. Болдак-Яноўскай. Ствараючы менавіта такі свет, аўтар не староніцца грубаватай лексікі, часам шакіруючых вобразаў, але гэта не бянтэжыць чытача. Наадварот, набліжае яго да сістэмы мыслення беларускіх герояў яе цудоўных апавяданняў.

Хацеў бы прапанаваць усім беларусам — і тым, хто жыве ў Беларусі, і па-за яе межамі: зацікаўцеся апавяданнямі Тамары Болдак-Яноўскай, таленавітага аўтара, які дасканала і глыбока ведае беларускую душу.

**Валенты ПІЛАТ.**

Ольштын, Польшча.

ПРЫМЕРКАВАНА ДА ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

# ІДУЧЫ ЎСЛЕД ЗА ГЕНІЕМ



По ініцыятыве літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў сталічным Доме літаратара адбылася вечарына "Мне доўгае расстанне з Вамі...", прымеркаваная да дня нараджэння паэта. Апошнім часам такія сустрэчы з Багдановічам, з ягонай чыстай паэзіяй сталі ўжо традыцыйнымі. І кожны раз яны збіраюць сотні людзей, пераважна маладых, якіх нязменна вабіць святло паэтычнага радка генія. У гэты снежаньскі вечар гаспадаром у зале быў верш. Маладыя выканаўцы — Алесь Шундрык і Вячаслаў Статкевіч — паказалі літаратурна-музычную кампазіцыю (пастаноўка Галіны Дзягілевай), "сатканую" з твораў паэта. У аснову гэтай кампазіцыі пакладзены Багдановічаў "Апокрыф", у які ўдала ўплецены разнаколерны вянок з вершаў і песень. У гэтых творах — хараство і таямніцы роднай прыроды, любоў да Беларусі і яе народа, нясцерпны боль за ягоныя пакуты, вера ў лепшае жыццё сваёй Бацькаўшчыны. І разам з тым — краса і незвычайная музыкальнасць паэтычнага радка. Не выпадкова да паэзіі Багдановіча звяртаюцца як вядомыя кампазітары, так і музыкі-аматары. У гэтым лёгка было пераканацца на вечарыне, падчас якой прагучала ажно семнаццаць песень. Думаецца, што чытачу цікава будзе даведацца імёны тых творцаў, якія спрычыніліся да паэзіі Максіма Багдановіча. Гэта Уладзімір Мулявін, Ігар Палівода, Ігар Лучанок, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Рыгор Самохін, Іван Раманчук, Сяргей Бакавец і Эдуард Акулін.

Было на вечарыне і важкае пісьменніцкае слова. Пра паэта прамаўляў паэт Алесь Разанаў. Ён засяродзіў увагу на з'яве ахвярнасці ў творчасці Багдановіча. Прыгадаўшы шырока вядомае старажытнае выслоўе "мастацтва патрабуе ахвяр", Разанаў зазначае, што гэта не проста прыгожыя словы. Творчасць немагчымая без ахвяравання, без аддачы. Гэтай навуцы — аддаваць — вучыў людзей Сын чалавечы Ісус Хрыстос. І Багдановіч належаў якраз да тых, хто ўмеў аддаваць. Ён аддаваў усяго сябе народу, творчасці. Звяртаючыся да маці-краіны, ён кажа: "Ты прабач. Ты прымі свайго сына. За цябе яму ўмерці дазволь!.."

Багдановіч дбае пра спрадвечны лад. Бо калі няма ладу — тады пачынаецца патоп. Ён пачынаецца з-за таго, што перапоўнілася чаша Божага цярпення "на людскія грахі ды бясчыннасці". Карціну патопу паэт малюе ў вершы "Страцім-лебедзь". Сумна заканчваецца гэты верш. Горды і моцны птах ахвяруе сваім жыццём.

**Ад усіх цяпер патомкі ёсць,**
**Ды няма адных —**
**Страцімавых.**

Але! Аналізуючы гэты верш, Алесь Разанаў даводзіць, што ахвяраванне заўсёды мае плён. Такі закон духоўнага ахвяравання. Ёсць у цяперашнім нашым усеагульным беларускім патопе нашчадкі Страцімавы, і таму што яны ёсць — жыве Беларусь!

Жаданай на вечарыне была паэтка Данута Бічэль, дырэктар музея Максіма Багдановіча ў Гародні. Сваё выступленне яна пачала вершам:

**Я жыву ў Тваім доме,**
**Максіме,**
**Гэта лёс мой, мяне не прасілі.**
**На Твой голас іду Тваім**
**следам.**
**Так, іду за вялікім Паэтам.**

Гэтым вершам пачынаецца кніжачка паэзіі "Ты не самотны...", якую Данута Янаўна напісала з Алесем Чобатам, жывучы ў Максімавым доме. У параўнанні са сталічным музей, дзе шчыруе паэтка, больш просты. Але яго супрацоўнікі ствараюць там казку. Неяк унук Дануты прывёз ёй з Ялты, дзе адпачываў, кіпарысавыя шышкі. Зярняткі, пасаджаныя ў зямлю, далі ўсходы і зараз растуць на стале Марыі Апанасаўны, маці Багдановіча. "Ты не самотны. Ты з намі, Паэце наш мілы, Бог Цябе любіць. Растуць у гаршчочку малым тры кіпарысы з зярнятак крымскай магілы ўваскрашоныя Лёва, Вадзім і Максім". Цёпла прымала зала кожны верш, прачытаны Данутай Бічэль, на яе шчырасць адгукалася бурнымі воплескамі.

Вершы Максіма Багдановіча на вечарыне гучалі не толькі па-беларуску. Выкладчык Мінскага лінгвістычнага універсітэта Васіль Ермаловіч прачытаў некалькі перакладаў на нямецкую мову. А ў выступленні першага сакратара Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Івана Бунэчкі вершы Багдановіча гучалі па-ўкраінску. Іван Бунэчка перадаў дарунак музею Багдановіча ад Саюза пісьменнікаў Украіны — тры кніжкі, адна з якіх — зборнік вершаў Максіма Багдановіча "Вянок" у перакладзе на ўкраінскую мову.

Сустрэча з паэтам чыстае красы закончылася на музычнай ноце. Вядучы вечарыны — паэт, гаспадар Беларускай хаткі (філіял музея Багдановіча ў Мінску) Эдуард Акулік праспяваў тры песні. Адну — на словы Багдановіча, дзве іншыя — на свае вершы "Пагоня" і "Жыве Беларусь".

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

# «НІЗКІ ПАКЛОН ТВАІМ ПЕСНЯМ...»

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

лавечай спакроўленасці, духоўнай лучнасці. Анітрохі не мялела, заставалася іканаграфічным пачуццё іх цёплага сяброўскага ладзьбавання і прыхільнасці, з гадамі нязменна мацнейшым становіўся нацыясофскі характар лістоўных кантактаў і ўзаемадачыненняў, якія, як вядома, запачаткаваны былі яшчэ ў перыяд замглёна-далёкага даваення, калі будучы народны паэт, лаўрэат Ленінскай прэміі толькі адольваў асновы мастакоўска-паэзіятворчага словатворства, спасцігаў нутраныя глыбіні версіфікацыйнай спрактыкаванасці і вывучкі. Так, упадаючы душою ў клопат часу, паэт і спявак знаходзілі магчымасці пісаць адзін аднаму, карэспандаваць аб сваім жыцці-быцці і працы, шматлікіх планах і шчымліва-балючых трывогах, урэшце, надзеях. Абодвух ахутвала-сагравала і, як ні дзіўна, вяла наперад мройліва-трапяткая нітка ўспамінаў і згадак.

Варта акцэнтаваць тую акалічнасць, што хоць М. Танк і лічыўся дужым знаўцам парадку і характару выгрунтоўвання многіх палітычных рашэнняў і арганізацыйных вывадаў (дарэчы, лёс ахаваў нам яго самога шмат у чым выпадкова), у супрацьвагу многім сваім творчым пабрацімам, ён, бадай, ніколі не паддаваўся таннай кан'юнктуры, не парываў сувязей з асобамі, так бы мовіць, на пэўным этапе грамадска-сацыяльнага жыцця непапулярнымі, у нечым нават крамольнымі ці што. Якраз гэтак было з Л. Геніюш, П. Мядзёлкай, П. Бітэлем...

Ён ведаў, што, спазнаўшы напоўніцу смак і прысмак чужаземшчыны, мужна адольваючы нудоту адчужанасці і адзіноты, падазронасць і недавер, М. Забэйда-Суміцкі не інакш як мілаваў кожную драбніцу са спавешчаных яму культуровых варункаў Радзімы, працы музычных, спявацкіх калектываў. Паэт намагаўся, калі не суняць, то хоць бы ў нейкай меры прыцішыць душэўны боль і верад спевака, развеяць тугу і засумленасць па родным краі і яго людзях, цешыў яго спадзеўкамі на хуткія адведзіны Беларусі, пасабляў-абнадзейваў, як гэта ён умеў, далікатнымі парадамі і рэкамендацыямі. Усведамляючы, што Бацькаўшчына моцна завінавацілася перад маэстра, ён не лічыў за ўдругарадзь лішні раз распавесці ў сваім лісце пра тое, што яго канцэртна-спявацкая творчасць уяўляе вялікую духоўна-маральную самакаштоўнасць і эстэтычнае значэнне, яна добра ведама на Радзіме, так ці інакш слугуе інтарэсам беларусаў, усёй этнасацыяльнай супольнасці.

Максім Танк наўрад ці быў мацавейшы здароўем, хваробы неаднакроць злосна падкошвалі яго самога — напрыклад, тузала хранічная арытмія сэрца, звальваў цяжкі грып. Але дбаць пра сябе ў яго не дужа атрымлівалася; адгукліва-парывіста рэагаваў ён на нездароўчасць і недамогі М. Забэйды, шукаў і дасылаў яму ратаўнічыя лекі, гаючыя зёлкі і інш. Калі ж вымалася магчымасць на колькі дзён выбавіцца ў якую еўрапейскую краіну, тым больш Чэхаславаччыну, абавязковым парадкам апланоўваў зазірнуць у Злату Прагу, наведаць знакамітыя Вінаграды і Польскую вуліцу, дзе месцілася жытло і майстроўня слыннага беларускага спевака і педагога.

У сваю чаргу, як паказваюць лісты, даверам і шчырасцю, клопатнай чуласцю і дабрынёй намагаўся дзячыць свайму даўняму сябру і аднадумцу Міхась Забэйда-Суміцкі, жыццё якога пры ўсёй сваёй знешняй паспяховасці і камфорце было досыць няпростым, спарадычна ацямнялася большымі ці меншымі няўладзіцамі і турботамі. Пасля вядомага наведання Беларусі ўлетку 1963 года болей спеваку яе так і не лёсіла было ўвідавочыць, хоць, здавалася б, уся яго культуровая дзейнасць з'яўлялася падкрэслена асацыяльнай і ўжо тым больш апалітычнай. А між тым, душа нястрымна лекатала, поўнілася ахвярнай утрапёнасцю ў памкненні крыляць на Радзіму, дзе, ён ведаў, жылі шматлікасныя і сапраўдныя прыхільнікі і цаніцелі яго ўталентаванага дару. Не выпадкова на яго выкананні беларускіх народных песень заўсёднай павалокай ляжала настраёвасць медытатыўнай засумленасці і тугі, умілажаленасці і скрухі.

Разведзеныя разгоністымі бальшакамі жыцця і часу, пераадольваючы непамыслоты і пяклуючыся кожны на сваёй дзялянцы культурнай нівы, Міхась Забэйда-Суміцкі і Максім Танк нерушавасць сваіх самаадносін здолелі пранесці цягам доўгага паўвечча.

Прапаную ўвазе чытачоў лісты Максіма Танка да Міхася Забэйды-Суміцкага, колькі часу таму выяўленыя мною ў сховішчах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

**Мікола МІКУЛІЧ,**
**загадчык кафедры**
**беларускай літаратуры**
**Гродзенскага дзяржуніверсітэта**
**імя Я. Купалы.**

Пількаўшчына. 2. YIII. 39.

Паважаны і дарагі Маэстро!

Вельмі хацеў Вас яшчэ раз хоць адведаць, выязджаючы з Варшавы. Але столькі трэба было злажыць візыт, што, прахадзіўшы пару дзён і ня бачыўшы ўсяму гэтаму канца, уцёк з шумнай як для мяне сталіцы. І Вы, здаецца, меліся хутка выехаць на правінцыю.

Варшава пакінула шмат уражаньня. На вечары можна было прачытаць на тварах слухачоў небеларусаў: "Чулі, што вас душаць, але няўжо-ж вы яшчэ жывеце і вершы пішаце?" Гаворачы, чуецца ў большасьці з іх нейкае ідэовае бязрыб'е. І яны, здаецца, самі здаюць сабе з гэтага справу. Шліфуюць дэталі — матэр'ял з надзеямі на лепшае (?), калі іх паклічаць на большыя будоўлі гэтых прэцызыйных майстроў слова. Ня ведаю добра, як у Украінцаў. Іх Алімп, здаецца, вельмі зфашызованы. Сумна робіцца за нашы нялічныя сілы, толькі бадрэеш, бачучы тое, што зрабілі і на ніве песьні і на ніве літэратуры.

Едучы, узяўся перакладаць... (неразб.). Здаецца, рэч простая, але цяжка паддаецца. Думаў сяньня кончу і прышлю Вам. Але не задаволены з перакладу. Буду рабіць нанова, бо трудны і падабаецца.

Глухі куток мая Пількаўшчына! Калісь адзін вазак, падвозючы мяне, казаў: "Як вы тут сядзіцё! Тут толькі можна выць паваўчынаму". А мне гэтыя балоты, гэта дзіч падабаецца, хоць ужо чую жутка падпаўзае цішыня гэтых балот, імгла бліжэй з кожным днём, зацягіваюцца плесьнямі зялёныя рачаліны і сінім маладым халадком пачынае дыхаць лета.

Цяпер палявыя работы. Німа часу пісаць. Працую. Ня ведаю, як удасца вырвацца ў Вільню ці куды небудзь, каб толькі знайшоў дзе працу. Бо тут з музамі не ўжывешся. Тут яшчэ толькі ўчора паўміралі пад грэблямі і мастамі чэрці ды лясуны і памяць аб іх першым сном яшчэ не ўздрамнула.

Добра было б, каб Вы калі маглі адведаць нашу старану. Гэта тут пяюць Вашу "Ой-лю-ля-лю..." і пераліваюцца яшчэ не замучаныя крыніцы жніўных песьняў. І сяньня я іх чуў. Толькі дождж перашкодзіў. Шуміць па каноплях, па травах зялёны дождж.

Хутка павінны выйсьці "Калосьсе" і "Летапіс". Мала навін на нашым літаратурным грунце. Можа як восеньню, калі ўдасца з'ехацца ўсім у Вільні, зноў будзем атакаваць салі ды эстрады. Арыгінальнае сучаснае наша. Мала з кім перапісваюся. З аднымі, як раз'едземся — губляецца сувязь, а з другімі — тое, што лучыла. Усяк бывае.

**Спакой трывожны ў сэрцы і ў цішыні вялікай.**
**На струнах заміраюць балюча пальцы рук.**
**І толькі чуеш: звоняць пявуча стрэлы, Ніка**
**тужэй паўдзённы сонца нацягівае лук.**

**Варочаюцца птушкі: апаляныя крыльля**
**агнём сямікалёрных вятроў і блыскавіц.**
**А вочы нашы даўна і марылі і сьнілі,**
**і вусны сьмяглі даўна, ждучы тых навальніц.**

А з-за жоўтага іржышча зноў наплывае песьня. Некалі мусім іх разам паслухаць над Нараччу, а цяпер, можа будзе час, прышлеце пару слоў: Як чуецеся Вы на сваей радзіме? Можа зробеце даслоўны пераклад з італьянскага якой песьні, падаўшы рытміку, і мы маглі-б некалі чуць яе па беларуску, а гэта знача і чуць выкананьне і бачыць. Бывайце. Моцна цісну Вашу руку з надзеяй хуткага пабачэньня.

**Ваш Максім ТАНК.**

**Вы думаеце: гэта — шчасце,**
**Калі ад дотыку твайго**
**Ператвараецца ўсё ў песню:**
**Зямля, трава, вада, агонь,**
**І хлеб, і соль, і боль, і радасць,**
**І кожны дзень, і кожны час!..**
**Як позна зразумеў, дзівак я,**
**Тваю трагедыю, Мідас!**

**(Працяг будзе).**

## *СВЯТА ЛІТАРАТУРНАГА КРАЯЗНАЎСТВА*





**Інакш, як свята, не назавеш вечарыну, што прайшла днямі ў літаратурным музеі Янкі Купалы. Дзве нагоды сталі падставай для правядзення сапраўднага літаратурна-краязнаўчага свята: 60-годдзе руплівага збіральніка памяці пра беларускіх пісьменнікаў Уладзіміра Содаля і выданне альбома "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч" (аўтар-складальнік — таксама Уладзімір Содаль).**

**Журналістам, краязнаўцам, гісторыкам беларускай літаратуры выхаджаны, сабраны па крупінках многія кнігі, артыкулы, нарысы пра Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ядвігіна Ш. Пра гэта, пра адданасць Уладзіміра Содаля беларускай справе гаварылі на сустрэчы ў Купалаўскім доме прызнаныя ў краіне і ў беларускай літаратуры людзі — Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Генадзь Кісялёў. Прыйшлі павіншаваць Уладзіміра Содаля Мікола Ермаловіч, Янка Саламевіч, Сяргей Панізьнік, Міхась Шавыркін і шмат хто яшчэ.**

**НА ЗДЫМКАХ: юбіляр Уладзімір СОДАЛЬ; выступае на вечарыне Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ЯЎГЕНУ КУЛІКУ — 60*

# МАСТАК І АСВЕТНІК

Агледзеўшы юбілейную (з нагоды 60-годдзя) выставу вядомага ў Беларусі мастака Яўгена Куліка, якая ладзілася ў лістападзе, успомніла нашае даўняе з ім знаёмства, асабліва, калі я ўбачыла графічны аркуш "Руіны замка ў Навагрудку"... Адбылося гэта недзе ў 1972 годзе дзякуючы Уладзіміру Караткевічу, з жонкай якога, Валянцінай Браніславаўнай, я працавала ў 70-я гады над падрыхтоўкай 7-томнага выдання "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі". Уладзімір Сямёнавіч заходзіў штодня да нас у сектар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, ведаў, што я збіраюся ехаць на шклозавод "Нёман", каб сфатаграфаваць мясцовыя шкляныя вырабы, і параіў мне ўзяць з гэтай нагоды выдатнага фотамастака Валянціна Ждановіча і адначасова зрабіць добрую справу: "падкінуць да Навагрудка таленавітага мастака, цудоўнага чалавека і краязнаўца Яўгена Куліка, які рыхтуе нізку графічных аркушаў "Помнікі дойлідства Беларусі". У. Караткевіч радаваўся, што Я. Кулік працуе над гэтай тэмай, і, чым мог, спрыяў яму ў высакароднай справе. Нас тады ўсіх яднала зацікаўленне ў вывучэнні сапраўднай гісторыі і культуры Беларусі і пэўная прапаганда яе даступнымі кожнаму з нас сродкамі (артыкуламі, кнігамі, манаграфіямі, ілюстрацыямі ці графічнымі аркушамі).

Менавіта ў 70-я гады пачаўся агульны працэс беларускага Адраджэння. І сярод яго пачынальнікаў (пісьменнікаў, гісторыкаў, філосафаў і мастакоў) быў Яўген Кулік. У дарожнай размове высветлілася, што мастак вельмі адукаваны ў галіне гісторыі і культуры Беларусі, што ён выключны краязнавец сваёй Радзімы і хоча, каб яго веды сталі здабыткам іншых людзей.

І вось нарэшце я бачу персанальную выставу ўлюбёнага ў родны край мастака, які сваю творчасць мэтанакіравана прысвяціў асветніцка-мастацкай справе, і хоць ён мастак XX стагоддзя, у яго творчасці відавочна пераважае рамантызм беларускіх мастакоў XIX стагоддзя, блізкіх яму ідэйна. Скончыўшы ў 1957 годзе Мінскую мастацкую вучэльню, а ў 1963 годзе Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, ён стаў высокапрафесійным графікам. Спачатку працаваў у галіне кніжнай ілюстрацыі і экслібрыса. Яго выдатныя ілюстрацыі не толькі ўпрыгожвалі, але і рабілі больш зразумелымі шырокаму колу чытачоў такія кнігі, прысвечаныя нашай гісторыі і культуры, як "Слова пра паход Ігаравы", творы Максіма Багдановіча "Маладзік", "Мушка-зелянушка" і "Камарык — зялёны тварык", паэма Міколы Гусоўскага "Песьня пра зубра" і інш.

Але з 70-х гадоў мастак сканцэнтроўвае сваю ўвагу на стварэнні шэрагу нізак станковай графікі, прысвечаных пэўным помнікам культуры Беларусі. Неабходна адзначыць, што Я. Кулік віртуозна карыстаецца рознымі графічнымі тэхнікамі і часам умыслова іх спалучае, каб дасягнуць большай эстэтычнай выразнасці таго суб'екта ці аб'екта, які ён адлюстроўвае.

На выставе можна было ўбачыць некалькі дакладных па пластыцы і прапорцыях лінарытных выяў помнікаў архітэктуры з нізкі "Помнікі дойлідства Гродзеншчыны": "Замак у Міры", "Абарончая царква ў Сынкавічах", "Руіны замка ў Навагрудку", якія перадавалі сучасны сумна-разбуральны стан помнікаў. І ў гэтым мне бачыцца яго роля не толькі як мастака, але і гісторыка, і краязнаўца. Графічныя аркушы Куліка перадаюць стан архітэктурнай спадчыны ў часы БССР і збліжаюць яго творчасць з творчасцю мастака XIX стагоддзя Напалеона Орды. Яго графічныя аркушы далі магчымасць параўнаць, да якога стану разбурэння дайшла беларуская архітэктурная спадчына ў БССР.

Але ішоў час, і стаўленне ЦК КПБ да беларускай спадчыны паступова змянялася. Створаныя рэспубліканскае і абласныя таварыствы па ахове помнікаў гісторыі і культуры, а таксама адпаведныя ім рэстаўрацыйныя майстэрні пры Міністэрстве культуры БССР патрабавалі не толькі навуковых доследаў, але і навукова абгрунтаваных рэканструкцый спачатку хаця б самых каштоўных архітэктурных помнікаў. Я. Кулік адгукнуўся на патрабаванне часу ў ліку першых. Ужо ў 1977 годзе ён стварыў прывабную нізку малюнкаў-рэканструкцый (умыслова скарыстаўшы змешаную тэхніку алоўка і акварэлі), якімі на персанальнай выставе можна было захапляцца : "Навагрудскі замак XIII—XVI ст. ст.", "Полацкі замак у пачатку XV ст.", "Мірскі замак у XVII ст.", "Нясвіжскі замак у XVIII ст.".

Гэтыя аркушы ў тыя гады "адкрывалі вочы" гледачам выстаў на нашу не толькі багатую, але і прыгожую спадчыну, якую неабходна рэстаўрыраваць і захаваць у аўтэнтычным выглядзе для нашчадкаў.

Я. Кулік вывучаў гісторыю культуры Беларусі комплесна і таксама комплесна і мэтанакіравана нагадваў гледачам і пра звычайнае жыццё беларускіх мястэчак, напрыклад, у аркушы "Кірмаш на Беларусі ў XVII стагоддзі" (1997). тут перададзены з навуковай дакладнасцю адзенне розных саслоўяў таго часу, посуд, паводзіны людзей, этнаграфічныя элементы і выгляд мястэчковых пляцоў, на якіх адбываліся падобныя кірмашы. Гэта збіральны вобраз матэрыяльнай культуры беларусаў у XVII стагоддзі. А каб надаць большую выразнасць пластыцы выяў, ён выкарыстаў рысунак тушшу і акварэль.

Сваёй творчасцю Я. Кулік заклікаў нас ганарыцца сівой беларускай мінуўшчынай. І ў гэтым жа 1977 годзе ён звярнуў увагу гледачоў на гонар беларускай нацыі, на дзеячаў культуры XII стагоддзя, стварыўшы трыпціх "Дойлід Іаан. Ефрасіння Полацкая. Майстар Лазар Богша". Яшчэ раней, у 1976 годзе, ён распачаў нізку графічных аркушаў з выявамі славутых людзей Беларусі. Першым быў твор "Князь Полацкі Усяслаў Чарадзей".

У юбілейны 1980 год магчымага святкавання тысячагоддзя Беларусі з дня летапіснага ўпамінання пра яе славутых полацкіх і тураўскіх князёў ён выконвае, спалучаючы аловак з гуашшу, партрэтныя вобразы княжацкіх беларускіх родаў X стагоддзя, дапаўняючы выявы летапіснымі тэкстамі. Гэта робіць яго аркушы больш зразумелымі недасведчанаму ў беларускай гісторыі гледачу. Маецца на ўвазе дыптых "Рагвалод, Тур" з удала закампанаванымі летапіснымі тэкстамі: "В лето 980... Бе Го Рогволод... имаше волость своя Полотеске а Тур в Турове от него же и туровци прозвашася..." і "Рагнеда. Ізяслаў" з адпаведным летапісным тэкстам: "В лето 980... она же реча не хочя разути рабынича..." (маецца на ўвазе адмова гордай полацкай князёўны Рагнеды выйсці замуж за наўгародскага князя Уладзіміра, маці якога была служанкай пры княжацкім двары).

Будучы ілюстратарам кнігі, мастак пільна сочыць за літаратурным працэсам у краіне і хутка адгукаецца сваёй творчасцю на больш значныя яго падзеі. Пасля выхаду ў свет кнігі У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" ён стварае ў 1978 годзе панарамны выгляд старажытнай Гародні пад аднайменнай назвай, які вабіць дакладнасцю архітэктурных дамінантаў горада, яго пазнавальнасцю. Паказаныя на выставе ілюстрацыі да кнігі М. Гусоўскага "Песьня пра зубра", выкананыя пяром і гуашшу, даюць пэўную ілюстраваную карціну жыцця Беларусі ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў. У кампазіцыях "Паляўнічыя ў пушчы", "Жыгімонт Стары на паляванні", "Князь Вітаўт", "Жніво" мастак адлюстроўвае мірныя заняткі беларусаў. У апошняй ілюстрацыі перад гледачом узнікаюць любыя нам ціхія пагоркі і ўтульныя лагчыны, пакрытыя "бабкамі" (так называліся складзеныя ў стажок жытнёвыя снапы). На пярэднім плане, каля такой бабкі, мастак падае вобраз беларускай мадонны праз пластычныя вытанчаныя абрысы постаці маладой сялянскай прыгажуні ў намітцы, якая тут жа, дзе працуе, корміць сваё немаўлятка. Гэта самы мірны занятак. З асалодай Кулік рысуе вобраз волата Белавежскай пушчы — зубра "Гаспадар пушчы".

Супрацьлеглая мірнаму жніву тэма захопніцкіх войнаў тых часоў і іх вынікаў для жыхароў Беларусі адлюстравана ў кампазіцыях "Нашэсце" і "Бітва". Асаблівы талент мастака — віртуознае майстэрства

(Заканчэнне на 8-й стар.).



Сяргей ПАНІЗЬНІК

## ЗОРКАПАС НАД РАСЦЯРОБАМ

На трох кітах плыла зямля.
На кім жа Крывіі трымацца!
Займела ўчэпістага мальца:
Яўген Кулік яшчэ змаля
апорай роднага камля
вучыўся карыстацца.

Усё жыццё не пудлаваў
і не ламаў сваю натуру.
Не паддаваўся на халтуру. —
для Беларусі шчыраваў.
Быў вершнікам і ваяваў
за герб, за сцяг, культуру...

Калі ўсе рыскі Куліка
на шар зямны цяпер ускласці, —
яны акрэсляць нашы страсці.
і постаці ў сівых вяках.
У мастака святло ў руках,
хоць рыскі — чорнай масці.

Суровы дзень, асенні час
не выстудзяць тваю усмешку.
Не жыць Радзіме на узмежку!
І ўсе кіты — на празапас:
крывіцкі кліч, ліцьвінскі пас...
Яўген Кулік як зоркапас
надзеіць нашу сцежку.

З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# СВЯТЛОМ ДАЎНІНЫ САГРЭТЫ

Кніга Уладзіміра Касько "Святло далёкай зоркі" прысвечана выдатнаму даследчыку беларускай даўніны Аляксандру Сержпутоўскаму (1864—1940). Лёс склаўся так, што большую частку творчага жыцця ён правёў у Ленінградзе, дзе працаваў навукоўцам у Дзяржаўным музеі этнаграфіі народаў СССР і Рускім музеі. Адтуль ён меў магчымасць ездзіць у экспедыцыі на Беларусь і ў розныя куткі Расіі.

Вядома, што жыццё вучонага праходзіла ад адной навуковай працы да другой. Яны з'яўляюцца важкімі вехамі ва ўсім творчым працэсе даследчыка. На жаль, амаль усе таленавітыя людзі канчаюць свой жыццёвы шлях у нястачы. Так здарылася і з А. Сержпутоўскім. Хворы акадэмічны пенсіянер не меў нават грошай на лекі. Пасля смерці таленавітага чалавека грамадства імкнецца аддаць даўгі. Гэта ўжо стала заканамернай з'явай. Да такой высновы прыйшоў аўтар кнігі.

Праца У. Касько прывабіла тым, што ён выкарыстаў для напісання манаграфіі вялікі архіўны масіў дакументаў і рукапісаў. Даследчык працаваў у архівах Пушкінскага дома, Рускага і этнаграфічнага музеяў у Ленінградзе (Санкт-Пецярбургу), а таксама выкарыстаў усе магчымыя матэрыялы з навуковых устаноў Беларусі.

Аўтар структуру кнігі пабудаваў вельмі дакладна, прасачыўшы творчы шлях А. Сержпутоўскага праз яго навуковыя працы. Перш за ўсё, ён правёў аналіз вядомых манаграфій вучонага: "Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета", "Прымхі і забабоны беларускіх палешукоў" і "Сказки и рассказы белорусов — полешуков". У. Касько ездзіў у тыя мясціны, дзе калісьці запісваў беларускі фальклор даследчык. Гэта дало магчымасць аўтару непасрэдна апынуцца ў тым асяроддзі, дзе працаваў збіральнік фальклору, і больш грунтоўна прааналізаваць яго кнігі.

Кола навуковых інтарэсаў беларускага вучонага было вельмі шырокім: ён быў фалькларыстам, этнолагам, гісторыкам, мовазнаўцам, музеязнаўцам. Таму У. Касько ў сваёй манаграфіі спалучыў даследаванне па фальклору і фалькларыстыцы, а таксама значнае месца адвёў вывучэнню этналогіі і іншых гуманітарных навук. Такім чынам, ён дабіўся ўсебаковага паказу дасягненняў А. Сержпутоўскага ў даследаванні розных накірункаў гуманітарных навук. Манаграфія выяўляе высакародную працу даследчыка, яго шматгадовыя пошукі і адкрыцці, вялікія намаганні аўтара данесці да нас праўдзівую карціну жыцця, творчай навуковай дзейнасці волата беларускай навукі.

Трэба адзначыць, што кніг, прысвечаных беларускім даследчыкам, выходзіць няшмат, але А. Сержпутоўскаму пашанцавала, таму што В. Бандарчык і А. Фядосік у 1966 годзе выдалі пра яго кніжку. Аўтар рэцэнзуемай манаграфіі пайшоў далей, зрабіў больш глыбокі аналіз навуковай дзейнасці беларускага вучонага, пасвойму даследаваў яго творчую лабараторыю. Ён выкарыстаў шмат навуковага матэрыялу, які не меў магчымасці апублікаваць даследчык. У. Касько знайшоў рукапісы, прааналізаваў іх, зрабіў навуковыя высновы. Аб гэтым ён гаворыць наступнае: "...Паказальнай можа лічыцца камандзіроўка Аляксандра Казіміравіча ў Беларусь у 1920 годзе. Уражвае геаграфія маршрутаў — за два летнія месяцы ён пабываў у дзесятках населеных пунктаў Усходняй, Паўднёвай і Заходняй Беларусі, зрабіў сотні апісанняў, замалёвак, чарцяжоў, фотаздымкаў сялянскіх дамоў, сельскагаспадарчых пабудоў, культавых установ, набыў вялікую калекцыю рэчаў дамашняга ўжытку, адзення, абутку, запісаў сотні прыказак і прымавак, песень, паданняў, замоў, апісаў многія абрады, святы, гульні. Увесь гэты багацейшы матэрыял доўгія гады пыліўся ў музейных архівах Ленінграда і ўпершыню ўводзіцца гэтай публікацыяй у навуковы абарот".

Вельмі плённай была праца У. Касько ў архіве Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) у Санкт-Пецярбургу, дзе ён знайшоў сшытак з надпісам "Сержпутовский А. Белорусские пословицы и поговорки, записанные в Мозырском уезде". У сшытку рукой беларускага вучонага ў алфавітным парадку запісаны 493 прыказкі і прымаўкі з захаваннем асаблівасцей мясцовай гаворкі. Давялося аўтару манаграфіі ўбачыць і прачытаць дзённік А. Сержпутоўскага, які ён вёў, пачынаючы са жніўня 1919 года, у ім даецца характарыстыка некаторых вучоных, а таксама сяброў.

Цікавая навуковая праца беларускага даследчыка была знойдзена аўтарам у архіве этнаграфічнага музея — гэта "Застенковая шляхта в Белоруссии", у якой ён грунтоўна падыходзіць да вывучэння становішча шляхты ў Вялікім Княстве Літоўскім і, у прыватнасці, на Беларусі. Вучоны сцвярджаў, што большасць шляхты — дробныя сяляне, па сваіх звычаях, культуры, занятках нічым не адрозніваюцца ад тых сялян, якія называюць сябе беларусамі. На шматлікіх прыкладах ён пераканаўча даказвае, што польская культура не магла аказаць істотнага ўплыву на беларусаў, бо "шляхта" ў большасці сваёй была такой жа неадукаванай, як і большасць беларускіх сялян.

Хацелася б, каб У. Касько даў сучасную ацэнку класавага падыходу да гістарычных падзей, што адзначыў А. Сержпутоўскі. Зараз метадалогія значна змянілася, і трэба было гэта ўлічыць у манаграфіі. Звернем яшчэ ўвагу аўтара на недакладнасць у кнізе, калі ён вядомага беларускага вучонага М. Доўнар-Запольскага робіць польскім гісторыкам. У дадатку аўтар дае невядомыя або малавядомыя працы па фальклору і мовазнаўству беларускага вучонага.

Манаграфія У. Касько — гэта грунтоўнае даследаванне, дзе аўтар вельмі глыбока, разумна і тактоўна прааналізаваў жыццё і дзейнасць беларускага вучонага. Добрае ўражанне пакідае афармленне кнігі.

Марат БАТВІННІК.

ПАДАРУНАК СТАРОГА ГОДА



**Тры медалі — залаты, сярэбраны, бронзавы — заваявала ў асабістым і камандным заліках у Віцебску на міжнародным турніры па скачках на батуце, прысвечаным памяці Героя Савецкага Саюза Міхаіла Сільніцкага, які адбыўся напрыканцы года, і аднaчасова ў спартакіядзе дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ рэспублікі віцябчанка Вольга СЯМЁНАВА.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# МАСТАК І АСВЕТНІК

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

ў стварэнні выразнай (умоўна-скульптурнай) пластыкі дынамічных ракурсаў целаў людзей і коняў адзінай непарыўнай лініяй захапляе ў кампазіцыі "Бітва", дзе ўсё, здаецца, "клубіцца" ад імклівых рухаў. Гэткае ж віртуознае майстэрства графіка відавочнае і ў партрэце "Максім Багдановіч", які выкананы гуашным абрысам "на адным дыханні", адразу, не адрываючы рукі ад ліста. Лічу гэты твор самым бліскучым у графічным партрэце.

Як сапраўдны краязнавец, які ведае не толькі гісторыю свайго краю, але і яго краявіды, мастак праявіўся ў нізцы аркушаў, распачатых у 1983 годзе пад назвай "Вандроўкі па Беларусі", можна сказаць, "жывапісна" намаляваных каляровым алоўкам. На выставе былі прадстаўлены краявіды, прысвечаныя мясцінам, дзе жыў і хадзіў вядомы беларускі мастак, краязнаўца і любіцель-даследчык касмічных прастораў Язэп Драздовіч: "Рака Мнюта ля Лужкоў", "Возера Крывое на радзіме Язэпа Драздовіча", "Наваколле вёскі Ягадкі на Ушаччыне".

Працягваючы тэму "Славутыя людзі Беларусі", ён звяртаецца ў 1987 годзе да вобраза мужнага гарадзенскага князя, палкаводца XIV стагоддзя і старасты Гродна Давыда Гарадзенскага, які паспяховав змагаўся з крыжакамі і перамог іх у Наваградку ў 1314 годзе, лівонцаў адбіваў ад Пскова ў 1322—1323 гадах, кіраваў паходам гарадзенцаў на Прусію ў 1318 годзе, на Мазовію ў 1324 годзе і на Брандэнбург у 1326 годзе. Мастак завяршыў партрэт у 1993 годзе.

У 1988 годзе ён распачаў нізку "Паўстанне 1863 г. на Беларусі", якую вытанчана выконвае каляровым алоўкам. На выставе быў прадстаўлены з яе адзін аркуш — "Паўстанцы ля кузьні".

У 1996 годзе ён прадоўжыў спіс сваіх партрэтаў славутых дзеячаў Беларусі, стварыўшы графічныя аркушы пяром і гуашшу "Мікола Гусоўскі. Беларускі паэт-лацініст. 1470—1583", "Францішак Скарына. 1490—1552", "Ян Васьліцкі. 1485—пасля 1516". Адносячы іх да дзеячаў беларускага Адраджэння XVI стагоддзя, мастак размясціў партрэтныя выявы ў традыцыйных для таго часу рамах рэнесанснай формы, адлюстраваўшы іх годнасць паставай ракурсаў галоў, філасафічнасць мысліцеляў — позіркам вачэй, час іх дзеяння — пэўнымі відамі адзення, галаўных убораў, аксесуараў. Такім чынам, невялікая, але змястоўная, падабраная з вялікім "кулікоўскім густам" (пра яго выключны эстэтычны густ ведаюць усе мастакі суполкі "Пагоня") выстава прадэманстравала тытанічную стваральную працу Яўгена Куліка на працягу сарака гадоў, якую я назвала б "Ілюстраваная гісторыя і культура маёй Радзімы". Яго творы сведчаць аб сталасці таленту мастака-графіка і навуковай дакладнасці ведаў краязнаўца, улюбёнага ў сваю Радзіму — Беларусь. Пажадаем жа Я. Куліку далейшага плёну ў яго высакароднай дзейнасці.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**




**НА ЗДЫМКУ: дыптых Я. КУЛІКА "Рагнеда. Ізяслаў".**

# ГЛЫБОЦКІЯ АРХІТЭКТУРНЫЯ ЦУДЫ

Глыбокае — шчаслівае места, бо да сёння ўпрыгожана двума цудоўнымі барочнымі храмамі, якія належаць да залатога фонду даўняй беларускай архітэктуры. Віцебск, сталіца краю, які страціў сваю барочную красу, у мінулыя часы мог супрацьпаставіць глыбоцкім бажніцам па велічы і хараству хіба толькі славуты Успенскі сабор. Наведаць Глыбокае і пацешыць вока і душу сапраўдным хараством — вялікая асалода.

Галоўны і найстаражытнейшы з двух славутых Кармеліцкі касцёл пабудаваны ў XVII—XVIII стагоддзях. Унікальны помнік, які мае ажно чатыры вежы, "плыве" па-над глыбоцкім наваколлем, нібыта фантастычны карабель. Сучаснае аблічча фасад храма набыў у 1735 годзе паводле праекта архітэктара І. Глаўбіца, які "апрануў" бажніцу сярэдзіны XVII стагоддзя ва ўборы славутага віленскага барока. На Беларусі Кармеліцкі касцёл стаўся першым узорам гэтага стылю. Трохі пазней сваёй вяршыні віленскае барока дасягае ў найслаўнейшай полацкай Сафіі, якая велічу і гармоніяй архітэктурнага вобраза перасягне лепшыя барочныя бажніцы самой Вільні. На жаль, стан Кармеліцкага касцёла даўно патрабуе дасканалай рэстаўрацыі, у якой цяперашні гаспадар, праваслаўная абшчына, відаць, не мае асаблівай патрэбы з ідэалагічнай прычыны, бо ўслаўляць не зусім свой дом...

На здымку шаноўны чытач бачыць другі барочны цуд Глыбокага — Троіцкі касцёл, трохі маладзейшы сваёй гістарычнай асновай ад Кармеліцкага, які стаіць насупраць, але, на мой погляд, перасягае (тое, што, здавалася б, цяжка перасягнуць) суседа незвычайнаю, хочацца сказаць, беспрэцэдэнтнаю для Беларусі прапарцыянальнай узнёсласцю вобраза. Пяціярусная бажніца, цудоўна прафіляваная стромкім "лесам" пілястраў, нібы ўзлятае ў паднябессе белым сокалам, ствараючы мелодыю, поўную лірызму і боскага натхнення. На жаль, чытач не бачыць фасада, затое можа ацаніць рэдкае хараство алтарнай часткі храма, упрыгожанай, нібы каронаю, тонкай работы хвалістым фігурным шчытом. Прыём такога афармлення апсіды вельмі рэдкі, але і сярод адзінак глыбоцкі касцёл вызначаецца сваёй арыгінальнасцю.

Унікальную веліч Троіцкаму храму надала перабудова 1902—1908 гадоў, калі ён набыў надзвычайную стромкасць і ўзнёсласць. Аўтар рэканструкцыі Ю. Заро прыбудаваў да старой бажніцы бакавыя трансэпты, якія прарэзалі храм папярочнымі нэфамі, упрыгожыў іх высокімі фігурнымі франтонамі. Рэканструкцыя надала касцёлу прасторавую складанасць, значна ўзбагаціўшы бакавыя фасады. Але найбольшы эфект быў дасягнуты надбудовай старых вежаў двума новымі ярусамі. Веліч і пластычная грацыя Троіцкага касцёла дае падставы спецыялістам бачыць у ім парасткі стылю ракако, народжанага выкшталцоным геніем еўрапейскіх дойлідаў.

Быў да 1970 (!) года ў Глыбокім і трэці архітэктурны цуд — касцёл кляштара базыльянаў, што стаяў на самым беразе шырокага глыбоцкага возера ў прадмесці Беразвечча. Знаўцы ставілі яго побач з львоўскім саборам св. Юра, прыпісваючы яго стварэнне італьянцу Ф. Плацыдзі. Далейшыя даследы далучылі і гэты твор да вялікага Глаўбіца — "дыктатара" ракако ў беларуска-літоўскім краі. Гвалтоўнае закрыццё кляштара і ператварэнне яго ў глыбоцкую турму прывяло ўрэшце да знішчэння беразвецкага цуда, што нанесла вялікую страту ўсёй архітэктурнай спадчыне Беларусі. Застаецца надзея, што некалі стараннямі цывілізаванай волі ён будзе вернуты ў нашы мастацкія набыткі, бо памяць з такімі стратамі не можа пагадзіцца.

Глыбоцкі феномен з трох барочных шэдэўраў застаецца да сёння хвалюючай старонкаю вышыні беларускага дойлідства, якое ўбірае ў сябе помнікі агульнаеўрапейскай вартасці.

**Алесь МЕМУС.**
**Фота аўтара.**

**НА ЗДЫМКАХ: Троіцкі касцёл. Выгляд з боку апсіды; Кармеліцкі касцёл. Рэдкі ўжо для Беларусі ўзор дэкаратыўнае аздобы дзвярэй галоўнага ўваходу. XVII ст.**






Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.





Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1831.
Падпісана да друку 22.12.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.